НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

№ 26 (815) 17 ліпеня 2013

www.nn.by

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады

## Віла Пефціева ў Раўбічах

Рыэлтары ацэньваюць кошт у 5 мільёнаў. Фоты — старонка 6.



## Рублёвыя дэпазіты: пад гіганцкі працэнт

Ермакова спрабуе спыніць перавод рублёў у валюту. Старонка 2.



# Чарвяк

Я стаяў у «клетцы». Гэта была адна з трох камер КПП-2 — 50 на 50 см, з цаглянымі сценамі і кратамі замест дзвярэй... Зміцер Дашкевіч. Аповесць. **Старонка 10.**

**Грамадства**

### Доктар Шэга: жыццё працягваецца!

У Слоніме звольнілі знакамітага траўматолага. **Старонка 3.**



**Здарэнні**

### Забава ў лодцы скончылася вялікай трагедыяй

Трое малых і двое дарослых патанулі. **Старонка 7.**



**Культура**

### Называецца «Макулатура», але не макулатара

Дзёрзкія выданні новага пакалення. **Старонка 11.**



**Правілы жыцця**

### Баптысты: дружныя людзі

Знаёмцеся — Анатоль Клімовіч, 36 гадоў, рабочы. **Старонка 12.**



## Дык падпісвайся!

«Наша Ніва» з'яўляецца ў кіёсках у Мінску ў сераду ад абеду, у рэгіёнах — у чацвер. На газету можна і падпісацца — глядзі **старонку 2.**

# За чые грошы банкет?

**Пяць фактаў** пра «Славянскі базар-2013».

У Віцебску скончыўся XXII фестываль мастацтваў, у якім, калі прыгледзецца, ад славянскага адна назва.

### Заўвага за «нярускі базар»

Гэта праявілася ўжо на прэс-канферэнцыі да адкрыцця «Базару». Міністр культуры Барыс Святлоў пачаў яе па-беларуску, аднак журналісты расійскіх СМІ пачалі абурацца: «А сейчас переведите нам то, что вы сказали!». «Мы здесь не лишние, во-первых!». Вядучы прэс-канферэнцыі, расійскі артыст Сяргей Шусціцкі, бестактоўнасць зглядзіў. Сам Барыс Святлоў перайшоў на рускую і паабяцаў адказаць на любыя пытанні — на той мове, на якой яны прагучаць. Далейшыя пытанні міністру культуры задавалі па-руску, гэтак жа ён на іх і адказваў.



СЯРГЕЙ СЕРАБРО, НАРОДНЫЯ НАВІНЫ ВІЦЕБСКА

**Гады ідуць, Эдзіта П'еха не змяняецца. Раней яна дзяліла сцэну з дачкой Ілонай Бранявіцкай, цяпер — з унукам Стасам.**

### Білан і шансон

Калі паглядзець на лінейку сольных канцэртаў сёлетняга, ды і ўсіх апошніх «Базараў», дык беларусаў у ёй са свечкай не знойдзеш. У Летнім амфітэатры сольна выступалі: Ваенга, Аляксандр Малінін, Крысціна Арбакайце, Дзіма Білан, гурт «Рукі вверх», Ларыса Доліна, Леанід Агуцін і кампанія, а таксама Вілі Токараў з бенефісам і зоркі «Шансон-ТВ».

Беларусы калі і траплялі ў амфітэатр, дык толькі на зборных канцэртах. У мінулыя гады «сольнікі» на «Славянскім базары» мелі выканаўцы кшталту этна-трыа «Тройца», а сёлета выступілі толькі мінскі гурт «Без билета» — на разагрэве ў «Рукі вверх».

> **«Славянскі базар» правільна было б назваць «Базар рускай папсы»**

Але, зрэшты, хто сказаў, што беларусаў было мала на сцэне амфітэатра? З сольным канцэртам выступіў Прэзідэнцкі аркестр Беларусі. Ён выконваў заходнія рок-хіты.

### «Ярмоленка так жыве»

Інтэрнэт на наступны дзень пасля пачатку «Базара» абляцела відэа. Сюжэт: спявачка Іна Афанасьева скандаліць з арганізатарамі фестывалю і кажа ўсё, што думае пра іх і іх стаўленне да беларускіх артыстаў.

Спявачка абураецца, што ў грымёрку тры на тры метры без кандыцыянера «засялілі» адразу чатырох артыстаў. «Мне трэба ў туалеце перааздзявацца, калі я беларуская артыстка?» — пыталася Афанасьева ў аднаго з супрацоўнікаў фестывалю, які тлумачыў, што асобныя грымёркі ёсць толькі ў замежных артыстаў.

«У нас Ярмоленка так жыве, Ланская так жыве» — спрабаваў апраўдвацца супрацоўнік. Урэшце Афанасьеву «перасялілі» ў грымёрку да «замежных артыстаў» Ваенгі і Агурбаш.

### Нага П'ехі

Непрыемнасць на «Славянскім базары» здарылася і з Народнай артысткай СССР Эдзітай П'ехай, якая мусіла атрымаць на конкурсе спецыяльны прыз — «Праз мастацтва да міру і ўзаемапаразумення». Днём спявачка падвярнула нагу і ўпала, аднак на цырымонію адкрыцця ўсё ж трапіла.

Спявачку падбадзёрыў Лукашэнка: «Тое, што вы падвярнулі нагу, у гэтым вялікі знак. Усё можна забыцца. Кветак вам дарылі мора, акіян. Узнагароды ў вас ёсць. Але тое, што вы, ідучы на гэтую цырымонію ўзнагароджання, падвярнулі, гэта заўсёды будзе памятацца». Пасля чаго паабяцаў П'есе, што яе будзе лячыць асабіста Косінец.

«Я папрашу губернатара, ён доктар-хірург [старшыня Віцебскага аблвыканкама, доктар медыцынскіх навук, прафесар Аляксандр Косінец], ён абследуе вас сёння і вылечыць вас да раніцы, і вы будзеце без спецыяльнага суправаджэння».

### Мільярды, мільярды

Па словах міністра культуры Беларусі Барыса Святлова, краіна сёлета выдаткавала на «Славянскі базар» 8 мільярдаў 387 мільёнаў рублёў — каля 950 тысяч даляраў. З бюджэту «саюзнай дзяржавы» сёлета на фестываль было выдаткавана меней — 24,9 млн расійскіх рублёў, што складае каля 760 тысяч даляраў.

Выручка ж ад рэалізацыі білетаў на фестывальныя канцэрты, паводле кіраўніка дырэкцыі фестывалю Аляксандра Сідарэнкі, склала 20 мільярдаў рублёў. Квіткі на фэст, дарэчы, нельга назваць таннымі — самы бюджэтны квіток на адкрыццё каштаваў 450 тысяч рублёў, у сярэднім жа цана сягала 750 тысячаў. Так што львіную долю «Базару», мяркуючы па гэтых лічбах, прафінансавалі мясцовыя і прыезджыя аматары Білана і шансону.

**Юрась Ускоў**

**Злоба дня**

## А можа змяніць прыярытэты?

Ведаеце, чаму дзеці-беларусы зусім не ведаюць беларускай мовы? Бо яны яе нідзе не чуюць, акрамя як у сям'і. Уключыце ў асноўны пакет добры мультканал па-беларуску, і ўсё будзе інакш. Мае дзеці, напрыклад, цудоўна ведаюць украінскую: проста таму, што ў нашым спадарожнікавым пакеце ёсць украінскія дзіцячыя каналы.

Калі беларуская мова знікне, гэта будзе катастрофа для нацыі. А мову паставілі ўжо на мяжу!

На грошы, якія Беларусь траціць на «Славянскі базар», можна было б год фінансаваць мультканал на беларускай мове. А Баскаў і «Рукі вверх» пражывуць і без беларускіх ганарараў.

**Мікола Бугай**

**Рэкамендуем**

## Увасабленне мараў

У Вільні адкрылі адбудаваны Палац валадароў

## Яцвяг уваскрос у Калінінградзе

**Чытайце на nn.by**

# Рублёвыя дэпазіты: працэнты падскочылі

Ермакова спрабуе спыніць **перавод рублёў у валюту.**

За першую дэкаду ліпеня беларусы знялі з рублёвых укладаў і перавялі на валютныя трыльён рублёў! Акрамя таго, насельніцтва купіла яшчэ 130 млн даляраў, якія засталіся на руках, прызнала старшыня Нацбанка Надзея Ермакова.

У часе мінулай дэвальвацыі яна — тады кіраўніца «Беларусбанка» — заклікала суайчыннікаў менш перажываць. Маўляў, купім на адны імпартныя туфлі менш, што з таго. Цяпер у эфектыўнасць такой агітацыі за шчасце яна верыць менш. Нацбанк спрабуе ўратаваць сітуацыю на валютным рынку навукова — з дапамогай даступных фінансавых інструментаў.

Дзякуючы ім, рэзка ўзняты працэнтныя стаўкі па ўкладах і сертыфікатах «Белаграпрамбанка» і «Беларусбанка».

«Стаўкі высокія, значыць, нявыгадна пераводзіць рублі ў валюту», — заклікае Ермакова. Яна гарантуе, што цэнтральны банк краіны будзе рабіць інтэрвенцыі дзеля захавання стабільнасці рубля.

«Белаграпрамбанк» прапануе сертыфікаты-аблігацыі на 35 дзён пад 35%! Калі ўлічыць, што інфляцыя сёлета вымалёўваецца каля 15%, гэта супервыгадны працэнт.

«Беларусбанк» жа прымае рублі на 15 дзён пад 30%.

Аднак хто можа прадказаць, наколькі адпусцяць курс за тыя самыя 15 ці 35 дзён? Калі курс стане 9200 за даляр, укладчык за месяц страціць больш, чым выйграе на працэнтах.

**Сяргей Гезгала**

**Курсы Нацбанка на 16 ліпеня**

Даляр 8840

Еўра 11570

Тым часам на рынках гандляры лічаць даляр па 9000—9100. Недавер да рубля выклікаў жаданне застрахавацца ад ваганняў курсу. Чаканні камерсантаў адносна рубля негатыўныя. Менавіта таму мэблевыя кампаніі, крамы на аўтарынках і прадаўцы будматэрыялаў паднялі «ф'ючарсную цану» у рубля.

**Самае чытанае на nn.by за 10-16 ліпеня**

1 «Паляўнічыя на педафілаў» сцвярджаюць, што зладзілі высокапастаўленага функцыянера БРСМ

2 Новы скандал з «Міс Мінск-2013»: у конкурсе ўдзельнічала замужняя жанчына

3 Расійскія журналісты зрабілі заўвагу міністру культуры Беларусі за прамову па-беларуску

4 Юнак збіў медыка-сірыйца ў электрычцы Орша-Мінск — фота і відэа

5 Мінск пад вадой — фота і відэа

6 Павел Севярынец закахаўся

7 Ад пятніцы даражэюць хлеб, цукар і гарэлка

8 «Міс Вымя — 2013» — фота

9 Самай малодшай з пацярпелых на Купаллі ў Пушкіна — 14 гадоў. Яе стан цяжкі

10 Гіганцкі апарат: ад КДБ да Службы аховы прэзідэнта

# Чаму падаражэлі прадукты?

**Карэспандэнты «Нашай Нівы» спыталі людзей на мінскіх вуліцах, што яны думаюць пра рост цэнаў на хлеб, цукар і гарэлку?**



**Пенсіянерка:** Вельмі сумна, што гэта падаражэла. Самае галоўнае для нас, пенсіянераў, — хлеб і цукар. Калі так і далей будзе, нам зусім будзе сумна. Мне здаецца, мы занадта трацім: «Славянскі базар», замежныя госці. Можа, у сувязі з нашымі не вельмі вялікімі прыбыткамі, варта гэта скараціць. Прэзідэнт увесь час кажа, што ўсё для народа. Дык давайце: павысьце нам пенсію, дайце нам летам садавіны паесці ўволю. А тут яшчэ і хлеб з цукрам даражэюць.



**Пенсіянер:** Я чуў «Свабоду», дык там расказалі. А лукашэнкаўская прапаганда маўчала пра падаражэнне. Гэта нам не прывыкаць. Ён дадаў пенсію, але зладзіў Купалле на радзіме — трэба ж акупіць. Тут «Дажынкі» на носе. Трэба менш святаў, яны шмат грошай з'ядаюць. Так што цэны падвышацца яшчэ будуць. Што рабіць? Трэба змяняць гэтага лідара. Ён за 18 год паказаў, на што ён здольны. Толькі ж выбарамі яго не зменіш. Ён будзе «да Колі».



**Хлопец:** Гэта ж цэны, яны ў нас заўжды растуць. Мая бабуля ўжо хадзіла ў краму, хоць старая, але мяшкі з цукрам несла. У нас такая эканоміка, што аб'ектыўна ўсе цэны будуць расці. Ад грамадзянаў мала што залежыць. Трэба цалкам мяняць эканамічную палітыку, прыбіраць планы, даваць больш уласнаму бізнэсу. Вось заходзіш у краму — там ляжыць перац з Нідэрландаў. Яны могуць вырасціць перац круглы год, чаму мы не можам?



**Пенсіянерка:** Я да гэтага стаўлюся абыякава. І на цэны не звяртаю ўвагі. Жыццё не спыніш, усё трэба ўспрымаць так, як яно ёсць. Чым больш грошай, тым больш патрэбаў. Можна пражыць на малыя грошы, і жыць цудоўна.



**Дзяўчына:** У нас у газетах усюды пішуць, што мы хлеб збіраем у час, што ў нас яго шмат. А цана чамусьці расце. Мне гэта незразумела.



**Пенсіянерка:** Мне гэта не падабаецца, але што рабіць? Усё даражэе. Я так разумею, гэта з пастаўкамі звязана: і бензін, і заробак прадаўцоў. Трэба цярпець. Загадзя нічога не куплю. Што будзе, тое будзе. На ўсё жыццё не набярэш. Сёння мне важнейшыя лекі і малако, чым гэта гарэлка. А цукар мне супрацьпаказаны, у мяне цукровы дыябет.



**Мужчына-будаўнік:** Я супраць, каб даражэлі такія прадукты. Ладна, гарэлка. І тое — ёсць катэгорыі людзей, якія без яе жыць не могуць. Але цукар, тым больш, калі ён усім зараз патрэбны для хатніх нарыхтовак... У чарговы раз за наш кошт спрабуюць вырашыць свае ўнутраныя праблемы, якія яны ж і стварылі.



**Хлопец:** Пра гарэлку — вельмі добра, што цэны пайшлі ўверх. Трэба заканчваць спойваць нашых грамадзян



**Мужчына:** Крыўдзяць пенсіянераў і маламаёмасных людзей. А ад п'яніц нікуды не дзенешся — гэта наш біч.



**Пенсіянер:** Думаю, што беларускі рубель зноў абваліцца. Сельскай гаспадарцы падвышэннем цаны не дапаможаш. Трэба ўрэгуляваць эканамічную палітыку, мець добрых эканамістаў.



**Сям'я пенсіянераў:** Цукру не ямо, гарэлку не п'ем, а хлеб — гэта дрэнна. Ва ўсім свеце растуць цэны, чаму ў нас не павінны расці? Усюды абурацца, і мы можам абурацца. А загадзя ніколі нічога не купляем.



**Жанчына:** Можа, яшчэ які лядовы палац пабудуюць, ні ў каго не пытаючыся, ці чарговую вуліцу пераймянуюць. Што рабіць? Выходзіць на плошчу, пратэставаць... Але ў нас небяспечна сваё меркаванне з любой нагоды выказваць.

**Аксана Рудовіч, Ірына Арахоўская**

# Аляксандр Малчанаў: **Галава кружыцца, але не ад свабоды**

На волю выйшаў 25-гадовы жыхар Барысава Аляксандр Малчанаў. Ён быў асуджаны на 1,5 года за крадзеж металалому на адным з заводаў Жодзіна. Раней Аляксандр адбываў пакаранне за Плошчу.

Не ўсе праваабаронцы гэтым разам прызналі Малчанава палітвязнем. Сам Аляксандр жа казаў, што на крадзеж металалому яго падштурхнула сітуацыя, калі ён не мог знайсці ў родным горадзе працы. Фактычна, з турмы ён вызваліўся з «воўчым білетам».

За час зняволення памерла маці Малчанава Галіна.

**«Наша Ніва»: Першыя дні на волі. Як адчуванне? Галава не кружыцца?**

**Аляксандр Малчанаў:** Прыемна. Вызваліўся зусім нядаўна, а адчуванні, нібы гэта было са мной вельмі даўно. Не 2—3 дні таму, а 2—3 гады. Галава кружыцца, але не ад свабоды, а ад усведамлення, колькі ўсяго трэба зрабіць.

**«НН»: Што менавіта?**

**АМ:** Самае галоўная задача — адрамантаваць дом. Ён прыйшоў у поўную нягоднасць. Рамантаваць трэба ўсё, ад даху да падлогі.


Пакуль Малчанаў сядзеў у турме, хата прайшла ў нягоднасць.
SVABODA.ORG

**«НН»: На працу Вам цяпер абавязкова ўладкавацца трэба?**

**АМ:** За нешта ж трэба існаваць. Буду шукаць. Хачу паехаць у Мінск, можа, знайду што ў сферы гандлю. Паўгода без дазволу міліцыі я не магу пакідаць межы Барысава. Трэба пісаць заяву аб пераводзе, але, думаю, што ніякіх праблем тут не ўзнікне.

**«НН»: Лістоў у турму шмат ішло?**

**АМ:** Так, надзвычай. Са словамі падтрымкі. Нават не было магчымасці на ўсе адказаць. Але я ўсім вельмі ўдзячны.

**«НН»: Вы сябе лічылі палітвязнем?**

**АМ:** Цяжкае пытанне. Я разумею, што здзейсніў парушэнне. Але разумею, што іншага ў маёй сітуацыі не пасадзілі б. Сама адміністрацыя калоніі, хутчэй, лічыла мяне палітычным. У іх было асобнае стаўленне да мяне.

**«НН»: Напрыклад?**

**АМ:** Мяне адразу накідалі надуманымі парушэннямі, як няправільна запраўлены ложак, ці неўстаноўленая форма адзення, каб трымаць на кручку. Нават з турмы выпусцілі не а 9-й раніцы, як трэба, а яшчэ да пад'ёма

**«НН»: Наколькі ведаю, Навасады — гэта калонія для рэцэдывістаў. З зэкамі не было канфліктаў?**

**АМ:** Не, абсалютна. Адносіны былі вельмі добрымі. У гэтым плане працей з людзьмі, што ўжо не першы раз за кратамі. Ніхто не ўмешваецца ў твае справы. Усе жывуць сваім жыццём.

**«НН»: Здароўе турма не падарвала?**

**АМ:** Ударыла. Цяпер у мяне хранічны насмарк. Ёсць праблемы з ныркамі. Усім трэба займацца, але крыху пазней.

**«НН»: З'язджаць не думаеце?**

**АМ:** Пакуль няма жадання. Калі ўжо ўбачу, што для мяне створаць немагчымыя ўмовы, тады пабачу.

**Гутарыў Зміцер Панкавец**

# Доктара Івана Шэгу звольнілі з працы

Апошнія 30 гадоў ён адпрацаваў доктарам-траўматолагам у Слонімскай раённай бальніцы. Звольнілі, як толькі Шэгу споўнілася 60 гадоў. Хаця вядома, што дактары, асабліва ў рэгіёнах, дзе недахоп кадраў, застаюцца працаваць і пасля 60. Шэга яшчэ поўны сілаў, але кантракт з ім не працягнулі.

Шэга — папулярны ў Слоніме чалавек. Актывіст Партыі БНФ, удзельнічаў у парламенцкіх выбарах. Нават у афіцыйных выніках у 2008 яму былі вымушаныя пісаць каля 40% галасоў (найбольш з апазіцыі). Па выніках экзіт-полаў ён увогуле перамагаў. Мы задалі спадару Шэгу некалькі пытанняў.

**«Наша Ніва»: Іван Іванавіч, які ў вас настрой, перажываеце праз звальненне?**

**Іван Шэга:** Адчуваю сябе нармальна. Канечне, трохі крыўдна на душы, але асаблівых перажыванняў у сувязі са звальненнем не было.

**«НН»: Што цяпер думаеце рабіць?**

**ІШ:** Мая справа яшчэ не да канца вырашаная. Скаргу ў суд можна скіраваць да 27 ліпеня. Буду кансультавацца з юрыстам наконт далейшай даты.

**«НН»: А ці ёсць ужо на Вашае месца замена?**

**ІШ:** Калі я сыходзіў, у паліклініцы яшчэ была вольная стаўка, бо сышоў яшчэ адзін мой калега. А цяпер на нашы месцы прыслалі двух маладых дактароў. Але ці гэта раўназначная замена? Каб стаць сапраўдным доктарам, трэба не менш за 10 гадоў.

**«НН»: Чым вы займаецеся цяпер?**

**ІШ:** Вось, збіралі подпісы супраць высячэння лесу па вул. Войкава. Райвыканкам даў дазвол на высячэнне лясного масіва пад катэджы. Першае іх рашэнне было яшчэ ў 2011, але пасля нашых пратэстаў яго адмянілі. Вось цяпер зноў «прарэдзілі» дрэвы і спрабуюць высекчы цалкам.

**«НН»: Ці Вы адчуваеце падтрымку з боку слонімцаў?**


Іван Шэга за працай.
GAZETABY.COM

**ІШ:** Так, ёсць падтрымка. Вось проста ў «Беларусбанку» падыходзілі людзі, пыталіся чым можна дапамагчы. Медыі таксама мяне падтрымліваюць, ёсць падтрымка і з боку партыйцаў. А калі быў на працы, дык і ўвогуле людзі ішлі як паломнікі. Карацей, жыву!

**Гутарыў Ягор Жукоўскі**

# «Паляўнічыя на педафілаў» кажуць, што злавілі функцыянера БРСМ

У інтэрнэце з’явілася відэа з Жодзіна, на якім мясцовыя «паляўнічыя на педафілаў» затрымалі мужчыну.

Госць са сталіцы прыехаў у Жодзіна на спатканне з 15-гадовым падлеткам для інтымнай сувязі. Малец сустрэў яго, але па дарозе са станцыі дзяжурыла група маладых людзей.

Аматара сэксу скруцілі і, калі верыць відэа, знайшлі ў яго дакументы на імя N., функцыянера Рэспубліканскага штаба моладзевага атрада аховы правапарадку БРСМ і, адначасова, актывіста Кампартыі Беларусі. Гэтыя дакументы дэманструюцца на відэа.

Жодзінскія хлопцы не стрымлівалі сябе ні ў выразах, ні ў кулаках. Прыезджаму хапіла пад бок і пад галаву.

«Я проста прыехаў у горад да знаёмых», — енчыць чалавек на відэа. Адмаўляе абвінавачванні ў педафіліі, пагражае, што яговы бацька з нападнікамі разбярэцца. «Усё даказаць можна — было б жаданне», — кажа ён у адказ на запэўніванні, што маюцца ўсе доказы ягоных непрыстойных намераў. Асабліва раздражненне «паляўнічых на педафілаў» выклікала ягоная прапанова адкупіцца грашыма.

«НН» звязалася з N. Ён здзіўлены з’яўленнем гэтага відэароліка.

«Вы мяне проста шакавалі», — кажа ён. І адмаўляе, што такая гісторыя здаралася з ім.

Ён не выключае, што гэта «магла быць нейкая падстава», бо «па сваёй дзейнасці сутыкаўся з непрыемнымі каментарыямі на свой адрас». Са словаў N., «невядомыя ад яго імя стварылі некалькі несапраўдных старонак у сацыяльных сетках».

N. кажа, што ў Жодзіне ён апошні раз быў у канцы 2010-га.

Ці былі выпадкі, каб яго збівалі, каб былі інцыдэнты? Не, кажа ён, нічога такога.

Як жа дакументы з яго прозвішчам маглі з’явіцца ў відэа? Ён не мае гэтаму тлумачэння.

Адміністратар суполкі, якая выставіла відэа, упэўнены, што чалавек на відэа не выпадковы. А ці маглі быць дакументы на імя N. у іншага чалавека? — запыталіся мы. «Если это не он, то ради бога», — адказаў нам адміністратар.

У той самай суполцы выстаўленыя іншыя відэа выкрытых, на думку аўтараў, педафілаў і з крытыкай наркаманіі.

Актывісты суполкі трымаюцца праварадыкальных поглядаў, яны блізкія не да беларускіх нацыяналістаў, а да расійскага неанацыста Цесака.

Са словаў адміністратара суполкі, іх тактыка простая: з чалавекам, які праз інтэрнэт шукае інтымнай сувязі з 15-гадовым, «сустракаецца рэальны хлопец і яны ідуць нібыта на кватэру, каб па дарозе пераканацца, што гэта акурат той чалавек і што ягоныя намеры такія, як у перапісцы».

Пасля гэтага адбываецца катарсіс: «Падбягаюць пацаны, вітаюцца і тлумачаць, што ёсць два варыянты: даць інтэрв’ю нам і паехаць дамоў ці з’ездзіць у міліцыю для прафілактыкі».

Па словах адміністратара, відэа было выстаўлена ў інтэрнэт адразу пасля інцыдэнту, пасля было выдалена, цяпер з’явілася зноў.

Імя N. двойчы гучала ў інтэрнэце раней. Першы раз — пасля суда над адным з палітвязняў.

Як функцыянер БРСМ, N. прывёў у залу студэнтаў, каб заняць усе месцы. Такім чынам, ад паседжання адсякаліся праваабаронцы і сябры падсуднага. Рэпарцёры зафіксавалі тады, як ён піхнуў маці палітвязня.

Другі раз гэты функцыянер выступіў пасля Плошчы з філіпікамі на адрас апазіцыі і «кандыдатаў-банкрутаў».

Моладзевы атрад аховы правапарадку БРСМ — гэта кузня кадраў для сілавых структур.

Крымінальным кодэксам РБ адказнасць за сэкс з непаўналетнімі прадугледжваецца ў тым выпадку, калі гэтая асоба не дасягнула 16 гадоў. У жодзінскім выпадку адказнасці не можа быць, бо да сэксу не дайшло.

Затое ў самасудзе паляўнічых на педафілаў можна ўгледзець некалькі артыкулаў: дробнае хуліганства, нанясенне лёгкіх цялесных пашкоджанняў, распаўсюд матэрыялаў, якія прапагандуюць культ гвалту і жорсткасці, абраза. Аднак жа, са зразумелых прычын, ахвяры паляўнічых не імкнуцца да розгаласу.

Усе дакументы госцю з Мінска жодзінскія хлопцы вярнулі. Самога яго, па словах адміністратара, адвялі ў жодзінскую міліцыю, дзе з ім правялі прафілактычную размову.

Жодзінская міліцыя не дала нам інфармацыі, ці такі інцыдэнт фіксаваўся.

«Со слов милиции, никаких претензий к нам он не имел, ну оно и понятно, только яро уговаривал не выкладывать ничего в интернет», — напісаў нам адміністратар (стыль захаваны).

**Сяргей Макарэвіч**

## Мясніковіч наводзіць парадак

**Прэм’ер:** 10% насельніцтва афіцыйна нідзе не працуе.

Прэм’ер-міністр Беларусі Міхаіл Мясніковіч лічыць мэтазгодным увядзенне падатку на непрацоўных грамадзян.

Выступаючы на нарадзе з кіруючым актывам Магілёўскай вобласці 12 ліпеня, кіраўнік урада зазначыў, што прыблізна 445 тысяч чалавек працаздольнага насельніцтва ў Беларусі нідзе не працуюць, а значыць — не робяць ніякага ўнёску ў развіццё эканомікі. «Сітуацыю трэба выпраўляць. Адзін са спосабаў — увядзенне падатку з непрацоўных», — цытуе Мясніковіча дзяржаўнае агенцтва БелТА.

Цікава, што, паводле афіцыйных лічбаў Міністэрства працы і сацыяльнай абароны, не маюць працы толькі 0,6% ад колькасці эканамічна актыўнага насельніцтва, то бок усяго 27 тысяч. На паперы ў Беларусі самае нізкае ў Еўропе беспрацоўе. Дык навошта такая статыстыка?

**Зміцер Панкавец**

Колькасць беспрацоўных






**Фотафакт**

### 4 тысячы подпісаў за Каліноўскага

Актывісты кампаніі «Альтэрнатыва» перадалі ў Мінгарвыканкам подпісы, якія яны збіралі за адкрыццё ў Мінску помніка Кастусю Каліноўскаму. На фота: лідар «Ініцыятывы» Алег Корбан.




## Прэзідэнт Германіі: Ахвяры саветаў у краінах былога СССР чакаюць выбачэнняў

У краінах былога Савецкага Саюза мільёны сем’яў, у якіх ёсць прычыны чакаць выбачэнняў ад людзей, што працавалі ў ЦК КПСС і КДБ, заявіў у інтэрв’ю эстонскаму тэлебачанню прэзідэнт Германіі Ёахім Гаўк, які наведаў Эстонію 9—10 ліпеня.

На пытанне, ці мусіць Расія ўзяць прыклад з Германіі, каб пераджыць таталітарнае мінулае, Гаўк адказаў, што свой досвед вельмі складана перадаваць камунебудзь, але калі дзяржава пытаецца, як вызваліцца ад грузу мінулага, то заўсёды можа дапамагчы разуменне пункту гледжання ахвяры.

«Многія з вінаватых яшчэ жывыя. Германія не ставіць перад сабой задачу камусьці нешта падказваць, але посткамуністы павінны самі ў сябе запытацца, ці не засталося ў іх даўгоў перад людзьмі», — дадаў ён.

**Мікола Бугай**



# Чаму Мінск залівае?

«Лівнёўка» спраўляецца, **проста дажджы пачасціліся**, лічыць спецыяліст.

13 ліпеня Мінск ізноў плаваў. Раптоўная залева затапіла праспект у раёне парку Чалюскінцаў. Заліло дзве станцыі метро. Пад вадой на пару гадзін аказаліся нізіны на вуліцах Сядых, Лук'яновіча, Сурганава, Чарнышэўскага, Валгаградская, Багдановіча...

Такія патопы не ў навіну: у мінулыя гады залівала Нямігу, праспект Пераможцаў, Камароўку. Псуюцца аўто, псуюцца тавары, бо залівае падвалы з крамамі ды складамі, ёсць нават небяспека для жыцця работнікаў, што працуюць у падвальных і паўпадвальных памяшканнях. Як даць рады вадзе?

Уладзімір Котаў, галоўны інжынер УП «Мінскінжынерпраект», што займаецца распрацоўкай сеткі ліўневых калектараў сталіцы, быў здзіўлены пільнай увагай да «дрэнажнай» тэмы ў святле падтаплення Мінска 13 ліпеня.

«Нічога страшнага не адбылося. Паводле нормаў, ліўневая каналізацыя двойчы на год можа перапаўняцца. І мінская ўкладаецца ў норму: горад не падтопліваe штомесяц.

У суботу вузкай паласой прайшоў дождж высокай інтэнсіўнасці. Метэастанцыя зафіксавала выпадзенне паловы месячнай нормы ападкаў за гадзіну. Нягледзячы на перапаўненне, «ліўнёўка» спрацавала добра: тры гадзіны — і вада сышла. Вось калі б яна дагэтуль стаяла — была б іншая размова», — паведаміў Котаў.

Ён звяртае ўвагу і на змену клімату: «На тэрыторыі Мінска моцныя залевы становяцца ўсё часцейшымі, чаго не было раней. Пастаянна будуюцца новыя калектары. З запускам першых участкаў цэнтральнага калектара «Няміга» сітуацыя з падтапленнямі цэнтра горада ў раёне Нямігі палепшала», — кажа ён.

У змене клімату Котаў бачыць і плюсы. Горад можа выкарыстоўваць ваду, якая літаральна падае яму з неба: «У нас як: прайшоў дождж, ваду злілі ў Свіслач — і ўсё. Калі трэба будзе, дык падкачаем з вадасховішча. У прасунутых краінах гэтую ваду збіраюць у рэзервуары і выкарыстоўваюць у гаспадарчых мэтах, гэта прыроднае багацце і добрая эканомія. З такім падыходам мы сустракаліся ў Германіі, збор дажджавой вады актыўна развіваецца ў Польшчы, Літве. А ў нас, пакуль не задзяруць цэны на ваду, нічога не зменіцца».

**Кірыла Хілько, Ягор Жукоўскі**




**Калектар «Няміга»**

Мусіць быць завершаны да восені. Гэта паўкіламетровая падземная труба шырынёй два метры ад завулка Палявога пад вуліцамі Варанянскага, Жукоўскага, Талстога і ў раёне вул. Цэткін. Мусіць спыніць штогадовыя затапленні вуліцы Нямігі, самае моцнае з якіх здарылася ў 2009 годзе.

**Клімат мякчэе**

Паводле Белгідрамета, у Беларусі на пачатак XXI ст. прыпаў самы працяглы перыяд пацяплення за апошнія 130 год. Гэта пазітыўна адбіваецца на гаспадарцы: скарачаецца ацяпляльны перыяд і расце вегетатыўны. Да негатыўных з'яў адносяцца засухі на Гомельшчыне, Мазыршчыне і Берасцейшчыне, рост пажарнай небяспекі ў лясах і на тарфяніках, экстрэмальныя ападкі.

Ад 1 чэрвеня ўведзены спецыяльны каляровы код для абазначэння метэаралагічнай небяспекі. У яе ўваходзяць чатыры колеры адпаведна росту пагрозы: зялёны, жоўты, аранжавы і чырвоны. Залева 13 ліпеня на ўсходзе Мінска адпавядала аранжаваму ўзроўню.

---

Цана

## Колькі каштуе хлеб?



Цэны ў Мінску, крамы «Каравай», «Залатагорскі», «Акіян». Хлябы расстаўленыя ў парадку ад таннейшых да даражэйшых у пераліку на кошт за 100 грамаў.

| Гатунак | Вага, грамы | Цана, рублі |
|---|---|---|
| Водар | 820 | 7500 |
| Сучасны | 700 | 6550 |
| Траецкі | 520 | 5050 |
| Старажоўка | 700 | 7050 |
| Барадзінскі | 600 | 6050 |
| Пярэспенскі | 600 | 6550 |
| Юбілейны | 700 | 7700 |
| Жытнёвы | 450 | 5050 |
| Крапоткін | 600 | 6750 |
| Батон румяны | 400 | 4900 |
| Батон сталічны | 400 | 4900 |
| Нарачанскі | 600 | 7650 |
| Сталіца | 600 | 7700 |
| Старая Вільня | 450 | 5900 |
| Вязынскі | 450 | 5950 |
| Маяк | 450 | 6100 |
| Балтыйскія традыцыі | 900 | 12 200 |
| Траецкі | 520 | 7150 |
| Радзівіл | 550 | 8000 |
| Англійскі | 500 | 10250 |

**Юрась Ускоў**

---

Адукацыя

## Паступленне-2013:
### запатрабаваныя тэхнары

Уступная кампанія ва ўніверсітэты падыходзіць да наступнай ступені: ВНУ будуць прымаць дакументы ад другой плыні абітурыентаў. Стануць вядомыя афіцыйныя лічбы прахадных балаў і колькасці залічаных.

Як змяняецца набор на розныя спецыяльнасці? Іншымі словамі — якія спецыялісты ў краіне цяпер самыя запатрабаваныя? Пабачым на прыкладзе Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта.

Лічбы афіцыйнага плана прыёму ў БДУ ад 2010 года не змяняліся толькі на факультэт, кірунак якога з'яўляецца нязменным тысячагоддзямі — на тэалагічны. Ад 2010 да 2013 туды набіраюць стала: 20 — бюджэт, 10 — платная адукацыя.

Кідаецца ў вочы тое, што на тэхнічныя факультэты БДУ — такія як механіка-матэматычны, прыкладной матэматыкі і інфарматыкі, радыёфізікі і камп'ютарных тэхналогій, фізічны і хімічны — расце колькасць бюджэтных месцаў і скарачаецца прыём на платнае.

**Колькасць бюджэтных месцаў на факультэтах БДУ**




Пададзены вышэй графік адлюстроўвае гэтую тэндэнцыю. Найбольшая колькасць бюджэтных месцаў прыпадае на 2012 год, ФПМІ (278 месцаў у 2012 г. і ў плане на 2013 г. лічба не змянілася). Іншыя, акрамя хімічнага факультэта, знізілі ў параўнанні з 2012, колькасць месцаў — недзе значна, як фізічны факультэт (на 25 месцаў), недзе нязначна, як факультэт радыёфізікі і камп'ютарных тэхналогій.

Колькасць месцаў, якія будучыя студэнты будуць аплачваць з асабістай альбо бацькавай кішэні, на тэхнічных факультэтах паступова скарачаецца.

**Колькасць месцаў для платнікаў**




Тэндэнцыя парушылася ў 2013, калі нязначна вырасла колькасць платных месцаў на хімічным і фізічным факультэтах, але гэта не ламае ўсёй карціны.

Трэба дадаць, што гэтыя факультэты з'яўляюцца лідарамі па перавазе бюджэтных месцаў над платнымі.

**Бюджэтнікаў больш, чым платнікаў, у разы**




На 2012 на фізічны факультэт бюджэтнікаў набралі ў 12 разоў больш, чым платнікаў. Сёлета першае месца належыць факультэту радыёфізікі і камп'ютарных тэхналогій, дзе бюджэтнікаў у 8 разоў больш за платнікаў.

Грунтуючыся на гэтых звестках, можна зрабіць наступныя высновы.

1) Дзяржава ўвесь гэты перыяд была зацікаўленая ў працоўных тэхнічных спецыяльнасцях. І менавіта ў тых сферах, у якіх рыхтуецца найбольш спецыялістаў, дзяржава жадае зарабляць грошы. Усплёск набору на фізічны факультэт у 2012 тлумачыўся падрыхтоўкай да адкрыцця Астравецкай АЭС.

2) Увесь час расце набор на спецыяльнасці, звязаныя з камп'ютарнымі тэхналогіямі і ІТ. Беларусь мае вялікія шанцы стаць другой Індыяй у сферы ІТ.

3) Думаю, недабор менавіта на тэхнічныя спецыяльнасці сёлета будзе значна вышэйшы, чым раней. Магчыма, гэта дазволіць дзяржаве зразумець, што адным павелічэннем колькасці месцаў нічога не даб'ешся: трэба рэфармаваць сярэднюю ступень адукацыі.

**Аляксей Мухавецкі**

# Мультымільянер Пефціеў сканчае пабудову вілы ў Раўбічах

Рыэлтары ацэньваюць кошт палаца ў **5 мільёнаў даляраў** без аддзелкі.



Шкляной агароджы вакол тэрыторыі ўчастка ў Беларусі яшчэ ні ў кога не было.

Такога ў Беларусі не мае ніхто: вакол вілы стаіць высокая агароджа не з бетону і не з дрэва, а са... шкла. Асаблівага тоўстага шкла, праз якое гаспадары змогуць любавацца найпрыгажэйшымі пейзажамі Раўбіч, што на поўнач ад Мінска, з іхнымі высокімі гарамі і маляўнічай далінай.

Адзін з самых багатых і ўплывовых бізнэсоўцаў Беларусі рыхтуецца да ўваходзінаў. Будоўля ягонага дома прэміум-класа блізкая да завяршэння.

Не толькі шкло там незвычайнае. Вазьміце такую справу як даезд і дарожкі. Нават у шматлюдных заможных Бараўлянах, Тарасаве не ўсе вуліцы заасфальтаваныя. А тут адзін адзіны дом — а да яго заліваюць бетонам аўтаномную пад'язную дарогу. Адначасова завозяць мэблю і абсталяванне, тэрыторыя абрастае зялёнымі пасадкамі з туі ды іншай дэкаратыўнай флоры.

На вуліцы Сунічнай навабуд Пефціева значыцца пад нумарам 1. Ён сапраўды першы ва ўсіх сэнсах — як па адметнасці, так і па маштабнасці праекта. Будынак натхнёны стылем швейцарскіх горных шале, але туды ўкліньваюцца элементы ў стылі хай-тэк.

Увасабленнем задумаў займаюцца спецыялісты з Латвіі. Кантроль працэсу ажыццяўляюць міністэрскага выгляду прарабы, якія некалькі разоў на тыдзень ладзяць тут аператыўныя «лятучкі». Канчатковая прыёмка — за мужам і жонкай Пефціевымі, якія разпораз сюды наведваюцца.

Прыблізная плошча аб'екта — блізу 2000 квадратных метраў! Для параўнання: тыповая трохпакаёвая кватэра ў новым доме мае плошчу каля 70 квадратаў, або ў 30 разоў менш.

Уся тэрыторыя агароджаная шкляным плотам — ноу-хау для беларускага рынку нерухомасці. За шкляной сцяной — вялікі басейн, ёсць месца для зімовага сада. Ніжнія паверхі выконваюць гаспадарча-тэхнічныя функцыі. Асобна стаіць гасцявы домік з лазняй.

Штодня грузавікі падвозяць складнікі будучага камфортнага жыцця — дрэвы, мэблю, тэхнічныя сродкі.

У Раўбічах няма нават мінімальнай інфраструктуры — адзінае сельпо са стандартным наборам прадуктаў, сумнеўнай чысціні азёрны пляж, зусім не зорныя суседзі. З праяваў цывілізацыі — толькі вучэбны цэнтр Нацыянальнага банка. Але лазню ды більярд Пефціеў сабе можа дазволіць і без таго. Што рабіць доўгімі зімовымі вечарамі? Мусіць, цэніцца хараство прыроды ў Раўбічах.



Сама віла вялізная.



Уяўляеце, якія грошы ўкладаюцца ў бетанаванне пад'езных дарог і дарожак?



Выглядае такі шкляны плот вельмі густоўна.



Шале: для гасцей ці для прыслугі?

Паводле ацэнак вопытных рыэлтараў, на рэалізацыю арыгінальнага праекта пайшло каля 5 мільёнаў даляраў — гэта без уліку аддзелкі.

Заходнія СМІ называлі Пефціева «кашальком сям'і Лукашэнкаў». У чэрвені 2011 года ён першы з беларускіх бізнэсоўцаў трапіў пад еўрапейскія санкцыі. Уезд у Еўрасаюз яму забаранілі, а актывы трох вядучых кампаніяў — «Белтэхэкспарт», «БТ Тэлекамунікацыі» і «Спорт Пары» — замарозілі. У «чорным спісе» Еўрасаюза Пефціеў фігуруе як «галоўны эканамічны дарадца Лукашэнкі» і «ключавы спонсар рэжыму». Аляксандр Лукашэнка адрэагаваў рэзка: ініцыятараў гэтага рашэння назваў «нягоднікамі і падонкамі». Сёлета санкцыі з «Белтэхэкспарту» былі зnative, аднак за два апошнія гады міжнародны бізнэс Пефціева аказаўся пад ударам. Пакуль не далі плёну і спробы абскардзіць абмежаванні праз еўрапейскія суды.

Паводле ацэнак аналітыкаў, асноўны капітал Уладзімір Пефціеў нажыў на аперацыях са зброяй. Кампанія «Белтэхэкспарт» — манапольны аператар у замежных пастаўках вайсковай і спецыяльнай тэхнікі, інвестыцыйны агент урада Беларусі ў галіне вайсковапрамысловага комплексу. Філіі «Белтэхэкспарта» працуюць у Індыі, Аб'яднаных Арабскіх Эміратах, іншых краінах. Актывы Пефціева ўкладзеныя і ў іншыя разнапрофільныя кампаніі: «БТ Тэлекамунікацыі» (інавацыі, будаўніцтва, фінансавы лізінг), СП «Дзелавая сетка» (інтэрнэтправайдар), «Спорт-пары» (латарэйны бізнэс), Маліна ўшчызненскі бровар «Аквадзіў» (вытворчасць лікёра-гарэлачных напояў). Апроч таго, Пефціеў — акцыянер «Белзнешэканомбанка» і «Прыёрбанка», інвестар у Аршанскі авіярамонтны завод, стратэгічны партнёр у будоўлі завода комплексных угнаенняў у Катары. Ён жа — інвестыцыйны агент па правядзенні хакейнага чэмпіяната свету 2014, сябар Нацыянальнага алімпійскага камітэта Беларусі, старшыня Беларускай тэніснай федэрацыі.

**Паводле: Ігар Карней, радыё «Свабода»**

# Забава ў лодцы скончылася вялікай трагедыяй

**Трое малых і двое дарослых** патанулі на Белым возеры.

Некалькі сем'яў з Салігорска 12 чэрвеня выехалі адпачыць на маляўнічае возера Белае ў Жыткавіцкі раён. Два дні прайшлі весела, а на трэці, перад самым ад'ездам дадому, спакусіліся «водным атракцыёнам» за 100 тысяч рублёў. Селі пракаціцца на маторцы. І ніхто не звярнуў увагі, што лодка малая.

Гэта ўжо пасля трагедыі ўсе зазірнулі ў характарыстыкі маторкі «Прагрэс»: дапускаецца не больш за пяць чалавек на борце. У ёй жа было ўдвая больш, хай сабе палова — дзеці. Яшчэ адзін мужчына плыў па гумовым надзіманым коле («таблетка»), прывязаным да лодкі.

Нікога не налякала, што і кіроўца быў нападпітку. Дзеці так прасіліся пакатацца на маторцы. Выйшла бяда: кіроўца рэзка павярнуў, маторка зачэрпнула вады і перавярнулася.

Каля возера адпачывалі іншыя людзі. Па фатальнай выпадковасці дзве лодкі, што былі на беразе, гаспадары паспелі здзьмуць. Пакуль іх надзьмулі і даплылі, дастаць з вады ўдалося толькі сямёх. Але адна з жанчын ужо была нежывой. Астатніх праз некалькі гадзін даставалі вадалазы. Загінулі 32-гадовая Ганна з сямігадовым сынам Аляксеем, 5-гадовы Арцём, 4-гадовы Рэнат і 30-гадовая Вольга.

Сведкі трагедыі расказваюць, што кіроўца лодкі схапіўся за «таблетку» і нават не спрабаваў камусьці дапамагчы. Капітаны ж так не робяць.

Уладальніка маторкі адразу арыштавалі. У яго крыві выявілі 1,26 праміле алкаголю. Гэта хоць і лёгкая ступень ап'янення, але за руль сядаць нельга. Тым больш, што лодка не была зарэгістраваная, а канструкцыя яе была зменена.

Арыштаванаму 40 гадоў, ён мае аўтасэрвіс у Жыткавічах. Даваць паказанні без адваката ён адмовіўся.

Крымінальную справу завялі за парушэнне правілаў бяспекі руху і эксплуатацыі маламерных судоў, што па неасцярожнасці пацягнула смерць. Калі віну мужчыны дакажуць, яму пагражае да сямі гадоў турмы.

**Кастусь Матушыч**

**Праверацьіншыя вадаёмы?**

«Я з Ліды. У нас таксама ёсць возера, на якім прадпрымальнік наладзіў катанне на лодках. Ёсць нават экстрым-варыянт: чалавек выбірае любое месца на лодцы і трымаецца за што хоча, а кіроўца пачынае рабіць рэзкія развароты. Ніякіх рамянёў бяспекі альбо парэнчаў не прадугледжана. Выратавальных камізэлек няма, нават не цікавяцца, ці ўмееш плаваць», — расказала Ганна.




**Ганна загінула разам з сынам.**



**Тая самая маторка.**

**Вышук**



**Хлопец на фота** падазраецца ў збыце фальшывых грошай. Ён спрабаваў разлічыцца імі ў адной з мінскіх кавярняў. Калі касір пачаў правяраць грошы на сапраўднасць, хлопец збег. Хто пазнаў чалавека на фота, тэлефануйце ў Фрунзенскае РУУС Мінска: (017) 213-08-36, (029) 689-35-94.



Ваўкавыскі РАУС расшуквае абвінавачанага ў парушэнні правілаў ўезду у Беларусь **Серабяна Арцёма Рабертавіча**, які ўцёк ад следства. Прыкметы: на выгляд 40 гадоў, рост каля 170 см. Магчыма, ён быў на аўто «Аўдзі» з нумарам 32-20 ЕС-4. Хто ведае месцазнаходжанне абвінавачанага, тэлефануйце на: (1512) 7-51-10, (1512) 7-51-15.



**Мужчына на фота** падазраецца ў крадзяжы кашалька з пакоя персаналу ў сталічным гатэлі «Экспрэс» на Прывакзальнай плошчы. Хто пазнаў чалавека на фота, тэлефануйце на: (017) 225-02-02, (029) 774-99-62.

# Былы зэк ударам у сэрца забіў студэнта

Хлопец прыехаў **на канікулы да бацькоў**.

Здарэнне адбылося ўначы на 9 ліпеня. 18-гадовы Саша толькі скончыў першы курс Тэхналагічнага ўніверсітэта. Прыехаў у Вілейскі раён да мамы. Пагасціўшы ў яе, адправіўся да таты ў іншую вёску, Абадоўцы (бацькі не жывуць разам). Там яго і спасцігла смерць. Два ўдары нажом, адзін з якіх — у сэрца.

«Я з ім не сябраваў, але вучыўся ў школе, — расказвае Коля. — Вядома, што яго зарэзаў нейкі зэк. Яны там нібыта шумелі, крычалі. А гэты мужык выйшаў з дому, і Саша яму трапіўся. «Хуткая» не паспела прыехаць — мо і выратавалі б».



Сяброўка забітага кажа, што хлопец стаў выпадковай ахвярай. «Гэты зэк спачатку бег за іншым, але той хлопец уцёк. А Саша проста трапіўся пад руку. Мы былі разам у гэты вечар практычна да самага здарэння. Мы толькі сышлі, як адразу пачулі крыкі. Вярнуліся, але ж было позна. Той чалавек бегаў з нажом. Нават калі «хуткая» прыехала, ён усё хадзіў з нажом у руках па двары. Яму было абыякава».

Як стала вядома «НН», кампанія грукалася ў дом — забаўлялася. З хаты выйшаў п'яны мужчына. Каб разабрацца з моладдзю, ён прыхапіў нож.

Яго затрымалі ў тую ж ноч. У свае 37 гадоў ён паспеў ужо адсядзець у турме за забойства. Ён грамадзянін Расіі з дазволам на пражыванне ў нашай краіне. У Абадоўцы ён прыехаў да бацькоў сужецелькі. Выпівалі. Цяпер ён можа вярнуцца за краты на чвэрць стагоддзя.

**КМ**

# Зняў штаны на вуліцы — атрымай 4 гады калоніі

Эксгібіцыяністам аказаўся **сталічны педагог**.

У Мінску асудзілі мужчыну, які паказваў свае геніталіі дзесяцігадовым дзяўчаткам проста на вуліцы. Яго затрымалі ў красавіку пасля таго, як адна з дзяўчынак прасачыла за ім і зняла на камеру мабільнага тэлефона. Тры месяцы мужчына правёў у СІЗА ў Жодзіне. Працэс праходзіў у закрытым рэжыме. У выніку ён атрымаў 4 гады калоніі ўзмоцненага рэжыму з адтэрміноўкай на два гады.

Як высветлілася, эксгібіцыяністам аказаўся сталічны педагог. З месца працы ў яго былі выключна станоўчыя характарыстыкі. А да адказнасці прыцягваўся толькі адміністрацыйнай — па лініі ДАІ. Ён прызнаў сваю віну і раскаяўся. Бліжэйшыя два гады ён правядзе пад міліцэйскім наглядам. І калі за гэты час не здзейсніць парушэнняў, прысуд не будзе прыведзены ў сілу.

**СМ**

# Караткевіч вядзе справу Пушкіна

**Мастака не абвінавацілі**, але праверку працягваюць.

«Малюся за выздараўленне і працую. А далей буду несці адказнасць», — сказаў Алесь Пушкін. Ён цяпер знаходзіцца ў Зэльвенскім раёне. У Сынкавіцкай царкве праводзіць працу па раскрыцці старых роспісаў, замазаных алейнай фарбай.

Нагадаем, падчас святкавання Купалля на сядзібе мастака ў Крупскім раёне пяцёра чалавек атрымалі апёкі. Прычына — халатнасць: мастак уліваў спірт у бітон, які стаяў на вогнішчы.

Алесь трымае сувязь з пацярпелымі. 14-гадовая Ганна і 22-гадовая Вераніка, якія атрымалі найбольшыя апёкі, па-ранейшаму ў Рэспубліканскім апёкавым цэнтры ў Мінску. Да іх яшчэ не пускаюць наведнікаў. Праведаць можна толькі Вольгу, маму Ганны. Жанчына таксама знаходзіцца пад наглядам дактароў.

Крымінальная справа на Пушкіна не заведзеная. Як паведаміла следчая Ірына Караткевіч, яшчэ доўжыцца праверка. І мастак не знаходзіцца ні ў якім статусе. Цяпер праводзіцца апытанне ўдзельнікаў свята. У самога Пушкіна правялі агляд на сядзібе і канфіскавалі бутлю з-пад спірту, а таксама бітон, крупнік.

**Сяргей Макарэвіч**

**Небяспечны алей**

Выбухнуць можа не толькі спірт, але і звычайны сланечнікавы алей. Загаранне перагрэтага алею на патэльні — з'ява нярэдкая і можа скончыцца сур'ёзнымі апёкамі ці нават пажарам. Таму, каб пазбегнуць трагедыі, разагравайце яго на невялікім агні, не ліце шмат алею адразу, а таксама не кладзіце ў моцна нагрэты алей вільготныя прадукты — напрыклад, марожаную гародніну ў ледзяной глазуры. І не спрабуйце згасіць алей, калі ён усё-ткі загарэўся, вадою: гэта прывядзе да сапраўднага выбуху.

**Не згарыце на шашлыках!**

Пары спірту крайне небяспечныя. Праз нядбайнасць два гады таму чацвёра зваршчыкаў ледзь не загінулі. Яны прыехалі на адзін са спіртзаводаў Гродзеншчыны варыць цыстэрны, у якіх трымаюць віно. Ад віна ёмістасці вызвалілі, а вось пра пары спірту не падумалі. Калі зваршчыкі ўзяліся за працу, выбухнула так, што абваліліся столь. Толькі па шчаслівым збегу абставін ніхто не загінуў.

І не забывайцеся, што пацярпець можна і на шашлыках. Многія для распальвання вугалю карыстаюцца адмысловымі вадкасцямі. Запомніце, іх нельга ліць на вогнішча. Бутэлька з вадкасцю можа выбухнуць проста ў руках. .

# Павел Севярынец закахаўся

Нядаўна ў палітвязня, сустаршыні хрысціянскай дэмакратыі, змяніўся статус у сацыяльнай сетцы «Укантакце». Замест «не жанаты» цяпер на старонцы Паўла адлюстроўваецца «закаханы».

«Ну так, сапраўды закаханы, — кажа Севярынец. — Хто яна? Не, пакуль казаць не буду. Без каментарыяў».

Ці звязаная закаханасць з тым, што Севярынец згаліў вусы? «Ну так, гэтыя рэчы звязаныя», — смяецца Павел.

Апошняе пытанне: ці справа ідзе да вяселля? «Не, больш нічога казаць не буду», — ізноў усміхаецца.

Паўлу Севярынцу 36 гадоў. Цяпер ён адбывае пакаранне за Плошчу на «хіміі» ў вёсцы Куплін (Пружанскі раён). Тэрмін зняволення скончаецца 19 кастрычніка.

Паўла Севярынца называюць адным з сучасных беларускіх сэкс-сімвалаў.

**Сямён Цыбульскі**




**Фотафакт**

### Маладафронтаўцы ствараюць сем'і



Кася Галіцкая і Раман Васільеў.



Уладзь і Валя Яроменкі вянчаліся ў Мёрах.

Яшчэ дзве «ячэйкі грамадства» ўтварылася. Пабраліся шлюбам і абвянчаліся Кася Галіцкая — цяпер ужо Васільева ды Раман Васільеў **(верхняе фота)**. Яны пазнаёміліся і закахаліся ў Маладым фронце — суполцы нонканфармісцкай моладзі. Можна быць пэўным: сям'я будзе толькі мацнейшай ад таго, што мужа і жонку лучаць таксама грамадзянскія і нацыянальныя ідэалы. Таксама абвянчаліся маладафронтавец Уладзь Яроменак і ягоная абранніца Валянціна. Уладзь з Маладога фронту, адбыў турэмнае пакаранне за Плошчу. А цяпер зноў можа апынуцца ў турме за парушэнні нагляду.

# Польскія каталікі закляймілі тэнісістку Агнешку Радванскую за «аголеную фотасесію»

Чацвёрты нумар сусветнага рэйтынгу, польская тэнісістка Агнешка Радванска трапіла ў няласку ва ўласнай краіне. Пасля здымкі для Body Issue, дадатку да часопіса ESPN Magazine, каталіцкая арганізацыя Youth Crusade асудзіла спартсменку за смелыя фатаграфіі, назваўшы яе паводзіны «амаральнымі».

Здымкі ў дадатку Body Issue прадугледжвае пэўную ступень агаленасці спартоўца, для каталога выбіраюцца некалькі атлетаў, якія вызначыліся ў апошніх сезонах.

Здымка для Body Issue лічыцца прэстыжным бонусам у свеце спартыўнага глянцу.

Каментароў ад самой Радванскай пакуль не было, характэрна, што Агнешка пазіцыянуе сябе як ўзорная каталічка.

**сц**





**Камертон Сяргея Ваганава**

# Свінская гісторыя

Сустрэўся мне ля пад'езда сусед, якога я не бачыў некалькі гадоў, прыблізна ад таго часу, як ён канчаткова пайшоў на пенсію, пакінуўшы пасаду дробнага дзяржапаратчыка. Запомніўся ён мне чалавекам зашпіленым на ўсе гузікі, які суха, нібыта па нейкім фармальным абавязку, ківаў у знак вітання галавой. А тут раптам кінуўся з нечаканай прыхільнасцю ціснуць руку. І пахваліўся, як добра жывецца яму бязвыезна на былым бацькоўскім хутары, без тэлебачання, радыё і газет...

«Ну, а як тут у вас?» — запытаўся ён, палічыўшы, мусіць, што «ў нас тут» калі не горш, дык пэўна «не так».

«У нас тут афрыканская чума ды паўзучая дэвальвацыя, — паведаміў я жамярыны, так бы мовіць, са штодзённых навінаў. — Але нічога, улады заспакойваюць: даляраў і скварак хопіць...» — «Што, ізноў?! Я ўжо два разы губляў амаль усё, што з пенсіі назапашваў... Вось свінства!»

Я не ведаю, чым так пакрыўдзілі чалавецтва гэтыя бедныя, ад нараджэння прысуджаныя да забойства жывёлы. Але тое, што свінствам пазначаюць розныя, у тым ліку самыя страшэнныя і агідныя людскія заганы, належыць прызнаць гістарычным фактам.

У свеце сказанага падаюцца недаасэнсаванымі некаторыя падзеі. Не, гаворка не пра чуму, што раптам звалілася на нашу галаву. Я маю на ўвазе бабку Кастусю, што жыла ў вёсцы на поўначы Віцебшчыны, і пра якую я ўжо згадваў неадноўчы. Вось толькі не пра тое, як на пачатку 60-х мінулага стагоддзя здарыўся ў яе сапраўдны дэфолт.

Пачалося з таго, што ў нейкі момант бабка Кастуся наважылася паміраць. А паколькі была стопрацэнтнай бабулькай, падрыхтоўку да памінак па сабе пачала загадзя. Для чаго да жыўнасці, што складала моц гаспадаркі, то бок да старога бадлівага казла Ямелі ды бязроднага ката з адным вокам, далучыла двух ружаватых парсючкоў.

Трэба сказаць, што за савецкім часам бабка Кастуся ніколі і нідзе не працавала, а за польскім трымала «мага́зін», пра што і паведаміла аднойчы, паставіўшы на стол бутэльку «Выборавай» ад 30-х гадоў і засмаліўшы «Феміну» з залатым абадком...

### «Чума на вашы галовы!..», — енчыла Кастуся

Ніхто не ведаў, у якім закутку сваёй хаткі, што складалася з печы, закіданай коўдрамі ды зношанымі ватоўкамі ляжанкі, а таксама пакойчыка, які здавала штогод пераменлівым настаўнікам, яна захоўвала гэта багацце. Але матэрыяльным вынікам ейнага бязладнага жыцця з'явілася пенсія ў 7 савецкіх рублёў ды згаданы кватэрны прыбытак, здаецца, рублёў 10 ці 20 у месяц... Колькі б ні было, але «сейф», то бок нешта з абрэзка зацягнутай у вузел анучы, куды змяшчаўся ўвесь даход, яна хавала недзе ў спадніцах, пакуль не здарыўся той самы дэфолт.

«Чума на вашы галовы!..» — енчыла Кастуся, тыкаючы віламі ў запаскуджаную па калена падлогу свінушніка, дзе вінавата парохквалі парсючкі, ужо амаль падсвінкі, ды паблейваў Ямеля, стары казёл. Карацей кажучы, знік «сейф» пасля таго, як гэты стары казёл баднуў Кастусю, калі яна карміла «скварку» да маючых хутка адбыцца памінак. Я ўзяў другія вілы, тыкалі, шукалі да вечара... А назаўтра Кастуся прырэзала абодвух падсвінкаў, аднаго за другім — вырашыла, што гэта яны зжэрлі ейныя накапленні разам з «кашальком»...

Зараз я перапыню аповед пра Кастусю і яе парсючкоў, каб дапамагчы збянтэжанаму суседу дайсці да ліфта і заадно распытаць яго, што ён меў на ўвазе пад свінствам. Пазбягаючы падрабязнасцей цяжкай ад узрушэння размовы, магу паведаміць: свінствам сусед мой, былы дзяржапаратчык, а зараз пенсіянер, назваў *бясконцую хлусню*. А потым махнуў рукой і націснуў кнопку ліфта.

...Аднак вернемся да Кастусі.

Такіх вясёлых памінак на маёй памяці не здаралася.

Сабраліся настаўнікі на чале з дырэктаркай школы... З гучным жартам — «мо, як памрэш, пойдзеш у калгас?!» — з'явіўся ягоны старшыня... Укаціўся стары ксёндз, што ва ўсіх стрэтых незнаёмцаў пытаўся: «А дзе тут шлях да Варшавы?», а потым хітравата жмурыўся і працягваў: «А да Пецярбургу?»... Кастуся, калі і верыла ў Бога, дык сяк-так — у касцёл не хадзіла, абраз павесіла ў цёмным кутку, больш любавалася карцінай, на якой паляўнічыя цэляць ў качак, што ляцяць над атрутназялёным балотам. Але без ксяндза паміраць не хацела. Як і без калгаснага парторга, што ўвесь час намагаўся запінаць акенца коўдрай, каб народ не бачыў, як яны тут са старшынём ды ксяндзом п'юць...

Карацей кажучы, банкет быў на ўвесь свет — ці то з чаркай пад савецкую скварку, ці то са скваркай пад польскую чарку... Толькі пражыла Кастуся пасля тых памінак яшчэ гадоў са дваццаць ад сёмага дзясятка. Анучны кашалёк з грашыма, што праўда, згубіла назаўсёды, але з падсвінкамі ўпраўлялася рашуча і з карысцю для жыцця.

*kamerton_41@mail.ru*

# «На ўсё ў чалавечым жыцці свой час»

**Празаік Алесь Жук** расказаў пра сябе і пра час.

За савецкім часам па яго творах здымалі кіно. У суверэннай Беларусі ўганаравалі Дзяржаўнай прэміяй. Творы пісьменніка і сёння прапануюць для чытання ў школе.



**Алесь Жук**

нарадзіўся ў 1947 у в. Клешаў Слуцкага раёна. Скончыў філфак БДУ. Аўтар кніг прозы «Асеннія халады», «Паляванне на старых азёрах», «Паўстанак вяртання», «Праклятая любоў»... Працаваў рэдактарам газеты «ЛіМ», у часопісах «Полымя», «Нёман». Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1992).

Бедным сябе не лічыў, хаця і багатым не быў



**«НН»: Прачытаў аповесць «Халодная птушка»: праблема пераезду старых вяскоўцаў да дзяцей у горад. Вашыя бацькі дажывалі пры Вас?**

**Алесь Жук:** «Халодная птушка» спісана з маёй бабулі Антаніны, якая практычна і гадавала мяне малога з сястрой. Мама працавала ў Грэскай бальніцы, потым у Грозаве. Гадаваўся я ў вёсцы Клешаў. Ужо калі быў студэнтам, бацькі пераехалі жыць у вёску Грывень. Клешаў — Слуцкага раёна, Грывень — Капыльскага, родная бацькава вёска.

Пасля смерці мамы бацька заставаўся адзін. Чалавек жартаўлівы, на прапановы лекараў падлячыцца ў бальніцы адказваў: «Не магу. У мяне гаспадарка: сабака, кошка і куры». Пераязджаць у горад катэгарычна адмовіўся: «Я ў цябе як пасяджу год ля пад'езда, дык ты мяне і пахаваеш». І пражыў да 92. Апошнія два гады толькі жыў у горадзе. І тое ў Слуцк да сястры паехаў, бо адтуль мог наведвацца ў вёску.

**«НН»: У даведніках пішуць, што Вашыя бацькі былі служачымі. Для вёскі гэта нетыпова.**

**АЖ:** Бацьку дакладна можна назваць служачым, бо працаваў у раённым кіраўніцтве, а найбольш начальнікам сельсавецкага паштовага аддзялення. А мама медсястра — і не сялянка, і не рабочая.

**«НН»: Як бацькі аднесліся да таго, што пайшлі на філфак БДУ?**

АЖ: Тады вяскоўцы нават марылі, каб іх дзеці вывучыліся на настаўніка. Я пачаў яшчэ школьнікам пісаць у слуцкую раёнку «Шлях Ільіча». Нават ганарар аднойчы атрымаў ад бацькі папругаю, калі пакрытыкаваў калгаснага брыгадзіра. Ды і першыя апавяданні надрукаваў у «Нёмане», калі быў яшчэ старшакласнікам.

**«НН»: На філфаку Вы вучыліся разам з Алесем Разанавым і Віктарам Ярацам. Падпісвалі іх гучны ліст ў абарону роднай мовы ў 1968?**

**АЖ:** Яны вучыліся курсам маладзей. Ліст мы з сябрамі падпісалі, бо ў ім было заканамернае патрабаванне, каб на беларускім аддзяленні філфака ўсе прадметы выкладаліся па-беларуску. Нас за тыя подпісы не ганялі. Цяжэй было прафесару Міхасю Ларчанку. Хаця, ставячы свой подпіс пад тым лістом, ён ведаў, што перападзе і па партыйнай, і па службовай лініі. А паставіў!

### Замест канспектаў пісаў апавяданні

**«НН»: Прабіцца маладому пісьменніку было цяжка?**

**АЖ:** Літаратурны лёс складваўся неяк натуральна. Каб зацыкліваўся на тым «прабіванні», толку не было б. Галоўным было вучыцца пісаць. І добра, што ў гэтым кірунку падштурхоўваў Міхась Стральцоў, якому я ў «Маладосць» насіў шмат студэнцкіх опусаў. А потым мелі месца падтрымка і ўвага Янкі Брыля праз усё маё літаратурнае жыццё.

За гады студэнцтва практычна напісалася першая кніга апавяданняў. Мы з паэтам Юркам Голубам лекцый не прапускалі. Але, за выключэннем некаторых выкладчыкаў, нічога і не канспектавалі. На апошнім радзе ў аўдыторыі ў танных блакнотах пісалі сваё.

**«НН»: Пасля, як выглядае, літаратурны лёс склаўся ўдала. Па кнігах знялі два фільмы, уручылі Дзяржаўную прэмію…**

**АЖ:** Самае добрае, што пісалася і хацелася пісаць. Верылася, што напісанае хоць нешта зрушыць у жыцці да лепшага. Яшчэ за адно з першых апавяданняў, «Жонка героя», у рэспубліканскай газеце мяне адсцябаў артадаксальны крытык Якаў Герцовіч — за дэгераізацыю савецкага салдата ў час вайны.

Так, былі прэміі, узнагароды. Усё напісанае было перакладзена і выдадзена ў Маскве, былі публікацыі на замежных мовах. Але як магло падабацца кіраўніцтву тое ж самае «Паляванне на Апошняга Жураўля», якое мела абсалютна падцэнзурную працоўную назву «Паляванне на апошняга беларуса»? Да гэтай аповесці дабраліся б, але яна неўзабаве адкрывала нумар усесаюзнага часопіса «Дружба народаў». А тады дзейнічала жалезнае правіла: у рэспубліканскім друку нельга ні крытыкаваць, ні выступаць супраць змешчанага ва ўсесаюзным. Таму, відаць, і тэлефільмы здымалі, і спектакль па п'есе «Апошні жуpавель», якую практычна напісаў Аляксей Дудараў, ставілі амаль у дваццаці тэатрах Савецкага Саюза.

**«НН»: А фільмамі задаволеныя?**

**АЖ:** Ваенны «Палігон» маскоўскія «варагі» зрабілі па прынцыпу цяп-ляп, яшчэ і адсябеціны панадапісвалі, за якую сорамна. «Паляванне на Апошняга Жураўля» зроблены на прыстойным узроўні, але ж добры фільм — удача рэжысёра. Па «Паляванні» лічу ўдалым радыёспектакль, які зрабіў на Беларускім радыё Валерый Анісенка.

**«НН»: Прызнанне, высокія ганарары. Багемнае жыццё вялі?**

**АЖ:** Вядомасць мая была не такая і вялікая, тоўстых тамоў я не пісаў, ганарары атрымліваў па сярэдніх стаўках. Але бедным сябе не лічыў, хаця і багатым не быў.

Багемнага жыцця не вёў, і не таму што святоша: рана ажаніўся і гадаваў двух сыноў. Тады яшчэ не было ні завядзёнкі, ні такой моды. Завядзёнка была на сяброўскія пасядзелкі — старэйшых з маладзейшымі, пачаткоўцаў са сталымі і вядомымі, у равесніцкіх кампаніях. Гэта люблю і цяпер. На жаль, кола ўдзельнікаў такіх пасядзелак няўмольна звужаецца і здараюцца яны рэдка. З гэтым трэба змірыцца: на ўсё ў чалавечым жыцці свой час.

## Атрымаў ад бацькі папругаю, калі пакрытыкаваў калгаснага брыгадзіра

### Рэдактарам стаў па загадзе

**«НН»: Максім Танк у свой час накіраваў Вас «асадзіць» мясцовае начальства за цкаванне Геніюш. Дапамаглі?**

**АЖ:** Да Ларысы Геніюш я ездзіў па даручэнні ЦК КПБ. Місія была прыемная. Не толькі «асадзіць», але і папярэдзіць, каб Ларысу Антонаўну не чапалі без ведама сектара мастацкай літаратуры ЦК КПБ. З тае паездкі я прывёз папку яе вершаў. Яна дала мне іх са словамі: «Скажыце вітанне Максіму і няхай вершамі распарадзіцца ён сам». На ўвазе меўся Максім Танк. Вершамі ён распарадзіўся: надрукавалі вялікія падборкі ў «Полымі» і «ЛіМе», а потым выдалі кнігу паэзіі Ларысы Геніюш «На чабары настоена».

**«НН»: У 33 Вы занялі крэсла рэдактара «ЛіМа». Хацелі вяршыць лёсы калегаў?**

**АЖ:** Алесь Асіпенка, які быў рэдактарам «ЛіМа», выходзіў на пенсію. Я тады працаваў у ЦК КПБ, і мы з Сяргеем Законнікавым павінны былі знайсці чалавека на яго месца. Шукала і кіраўніцтва Саюза пісьменнікаў. Але на клопатную працу ў газеце салідныя пісьменнікі ісці не хацелі. Не ўгаварылі мы ні Вячаслава Адамчыка, ні Барыса Сачанку. Не змог знайсці патрэбнай кандыдатуры і Іван Шамякін. Вось цакоўскае кіраўніцтва і зрабіла рэдактарам мяне, хаця я ні дня да таго не працаваў у газеце. Ніякія адгаворкі не дапамаглі.

**«НН»: У «ЛіМе» Вы і перабудову сустрэлі. Паслабленне адразу пачалося?**

**АЖ:** Я з «ЛіМа» пайшоў у 1986, калі перабудова была аб'яўлена, але яшчэ не пачалася. Аддзел прапаганды ЦК КПБ заўзята змагаўся з нацыяналізмам, рассылаў інструкцыі абмяжоўваць сустрэчы пісьменнікаў у школах, ВНУ, у рабочых калектывах. А мяне абвінавачваў у нацыяналізме за тое, што друкаваў розных там Дубаўцоў, Пазнякоў, Дзянісавых, што набіраў у штат невядома каго: мелася на ўвазе творчая моладзь...

**«НН»: Чаму пакінулі газету?**

**АЖ:** Сыходзіць я не збіраўся. Але вясною рыхтаваўся пісьменніцкі з'езд. На ім планавалася, скажам, ратацыя сакратароў саюза. Калі на пасаду рэдактара «ЛіМа» ахвотных не было, то стаць сакратарамі хацелі многія. Гэта лічылася прэстыжным.

У апошні дзень з'езду ў пакойчыку для прэзідыума мяне затрымаў сакратар ЦК КПБ Кузьмін: «Жук, пойдзеш сакратаром Саюза пісьменнікаў». Я разгубіўся, ад нечаканасці пачаў адгаворвацца недарэчна і бездапаможна. Але па вачах Аляксандра Трыфанавіча зразумеў, што рашэнне прынята. Пасля абеду я яшчэ падпісаў да друку палосы, а вечарам ужо не быў рэдактарам.

### Часопісы захапілі па-ціхаму

**«НН»: У 2000-х з холдынга «ЛіМ» Вас адправілі на пенсію як героя Вашай жа аповесці «Паляванне на Апошняга Жураўля»: нібыта з пашанай, але прымусова?**

**АЖ:** Сыход з рэдактарскай работы, сапраўды, я ў сутнасці напрарочыў яшчэ пішучы «Паляванне на Апошняга Жураўля».

Да вясны 2002 рэдакцыя «Нёмана» была самастойнай арганізацыяй. А вясною з'явілася група, скажам так, актывістаў на чале з адным з кіраўнікоў Міністэрства інфармацыі і аб'явіла, што часопіс ліквідуецца. Я тады ляжаў у кардыяцэнтры з прааперaваным сэрцам. «Ліквідатары» аб'явілі, што ствараецца нейкі холдынг.

На самай справе прычына была ў тым, што галоўныя рэдактары «Полымя», «Маладосці», «Нёмана» дазвалялі сабе мець свой погляд на літаратурны працэс, наогул на тое, што дзеецца ў жыцці, і адпаведна фарміравалі часопісы. Кіраўніцтву такая пазіцыя рэдактараў не падабалася, іх вырашылі мяняць. Як вядома, вакол кіраўнікоў паслугачоў круціцца шмат, у тым ліку з пісьменнікаў. Вось яны актыўна і па-нялюдску ўзяліся за справу. На рэдакцыі былі арганізаваны праверкі за злоўжыванне службовым становішчам, за фінансавыя махінацыі і карупцыю. Правярала нас нават Генпракуратура. Праверкі нічога не выявілі, публічнага ганьбавання не атрымалася. Ціхенька быў прызначаны кіраўнік «холдынгу» і новыя рэдактары.

Я знарок не называю тых «ліквідатараў», каб прозвішчы іх нават такім чынам не засталіся ў гісторыі літаратуры. Бо прайшло толькі дзесяць гадоў, а іх ужо не памятае ні культурная, ні чытацкая, ні наогул грамадскасць.

**Гутарыў Сяргей Макарэвіч**

# Чарвяк

**Зміцер Дашкевіч.** Аповесць.


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Я стаяў у «клетцы». Гэта была адна з трох камер КПП-2 — 50 на 50 см, з цаглянымі сценамі і кратамі замест дзвярэй. Дзякуючы дызайнерскім асаблівасцям, буды гэтыя называюць у народзе «клеткамі» ці «стаканамі».

КПП-2, як і кожнае такое КПП, падзяляе жылую і працоўную зоны. Апроч камер для правапарушальнікаў, на КПП знаходзяцца: пакой дзяжурнага, дзе ўсталяваныя электронныя прыборы кантролю калоніі і металашукальнік у выглядзе дзвярной рамы, праз які мусяць праходзіць зэкі, вяртаючыся з прамзоны. Ёсць тут яшчэ невялікі кабінецік, на сцяне яго вісіць пластыкавы макет зоны з усімі абарончымі рубяжамі: гэта адначасова і пакой для інструктажу змены перад працаю, і перакусачная; а побач месціцца пакой для наглядду асуджаных перад закрыццём у «стакан». У пакоі гэтым, чамусьці, стаіць вялізны сейф.

— Што захоўваеце ў тым сейфе? — запытаў я неяк у кантралёра, які асабліва пільна там мяне распранаў.

— Паслядоўнасць расстрэлу бандытаў падчас надзвычайнага становішча, — ці то ўсур'ёз, ці то па прыколе заявіў наглядчык.

— Дык якія вам паслядоўнасці? — даў я ў сваю чаргу параду. — Шмаляйце ўсіх направаналева, і канцы ў ваду.

— Ну так, вады тут шмат, — загадкава пагадзіўся той.

Што яшчэ казаць? Зона стаіць у возеры. Віцебшчына — край блакітных азёраў.

— Трымай.

Я працягнуў з клеткі руку, і зэк гэтак жа хутка паклаў нешта мне ў далонь ды тут жа выйшаў у шэрагу асуджаных, што вярталіся з працы ў зону.

Я расціснуў кулак — то былі тры шакаладныя цукеркі. Мяне ажно праняло: не так ад шакаладных пачастункаў (раздаваць якія невядома каму — святатацтва для зэка), як ад разумення, што сярод гэтага шэра-чорнага натоўпу чалавекаў усё ж, больш, чым можна было б меркаваць. Вось гэты — невядома хто, але не пабаяўся падтрымаць. Хоць ведае, што вокамгненна можа стаць побач, у суседнюю клетку.

— Што там перадалі табе? — падскочыў малы вёртлявы кантралёр.

— Цукеркі.

— Хто перадаў?

— Не ведаю.

— Пакажы.

Я дастаў цукеркі з кішэні.

— Давай сюды.

— Ды ўжо не перапрацоўвайся ты можа? — кінуў я спакойна, але з некаторым абурэннем.

— Я тут пакладу, — асекшыся, апраўдаўся Дзяніска. — Непалажана.

— На — не паложана, дык не паложана.

— Во, будуць наверсе, — стаўшы на дыбачкі, ён паклаў не паложанае на дах майго «стакана». — Па вызваленні забярэш.

Я прамаўчаў, даючы зразумець, што забяру і без яго паслуг: дзе вы бачылі, каб зэк шакалад мог забыць?!

**Зміцер Дашкевіч**

Намеснік старшыні Маладога фронту. Быў затрыманы 18 снежня 2010, за дзень да прэзідэнцкіх выбараў, нібыта за бойку і асуджаны на 2 гады пазбаўлення волі за хуліганства. У 2012 быў асуджаны да яшчэ аднаго года зняволення, нібы за непадпарадкаванне супрацоўнікам міліцыі. Выйсці на волю Зміцер Дашкевіч мае 28 жніўня 2013.

**У гэтую суботу, 20 ліпеня, у Зміцера Дашкевіча дзень нараджэння.**

Ужо трэці дзень нараджэння запар ён будзе сустракаць у турме. Павіншаваць Зміцера можна, напісаўшы на адрас:

230023, Гродна, вул. Кірава 1, Турма 1.

Дашкевічу Дзмітрыю Вячаслававічу.

Варта пазначаць імя па бацьку Зміцера, каб ліст ці паштоўка гарантавана дайшлі.

Можна таксама даць тэлеграму, прадыктаваўшы адрас на гарадскі нумар 166.

Неўзабаве прыйшоў і мой вызваліцель — доўгі руды кантралёр з траха лупатымі вачыма. Адчыняючы клетку, ён з усмешкаю запытаў:

— Ну, што ты, усё парушаеш?

— Канечне, — пацвердзіў я, выйшаўшы з камеры, і адразу згроб з даху цукеркі.

— Ты мо завязвай з гэтым?

— Не магу: парушаць рэжым — маё крэда. І тут, і на волі.

— Раскруцяць жа.

— Ды кішка ў іх танка, — адсёк я ўпэўнена.

— Не, тут раскруцяць, павер мне, — паківаў той.

— Ну дык няхай і круцяць, у нас усё адно — за кожным вызваленнем ідзе арышт.

Пасля колькісекунднай паўзы руды зрабіў дапушчэнне:

— Тут ты мо і маеш рацыю.

— Гэта не я, гэта класік гулагаўскай прозы жыцця, — удакладніў я, ідучы да выхаду.

— Сёння ўжо не завітаеш да нас? — падкалоў кантралёр.

— Куды ж ужо проці ночы? Заўтра мо, пасля «промкі».

— Ну глядзі, нашыя апартаменты заўсёды радыя вас прыняць.

— Гэта не можа не абнадзейваць, Пятро! — падзякаваў я і выйшаў з КПП.

Перад адбоем я піў гарбату са смачнымі шакаладнымі цукеркамі і думаў: «Дай Бог харошаму чалавеку здароўя і добрую жонку!»

Што такое «промка»? Галоўны інструмент перавыхавання зэка. Як падаткавікі маюць разнарадку на колькасць злоўленых неплацельшчыкаў «мзды», дзяржкантрольшчыкі — на колькасць выяўленых сабатажнікаў мадэрнізацыі, так і турэмшчыкі маюць спушчаны з вярхоў план на адсотак перавыхаванага кантынгенту. І адсотак не абы-які — 100 працэнтны пунктаў. І зона іх не толькі выконвае, але і перавыконвае. Выходзіць на промзону, да прыкладу, 10 зэкаў — гэта азначае, што ўсе яны перавыхоўваюцца, і, перавыхаваныя дарэшты, вызваляюцца ўмоўна-датэрмінова ці «па званку». Ужо маем 100 працэнтаў перавыхаваных. Праз колькі месяцаў — дзевяць з дзесяці зноў тут. Іх зноў перавыхоўваюць, зноў вызваляюць, і вось, маем — 190%! Было б 200%, але адзін пасля першага перавыхавання баршчануў на волі «максімкам» і ад перадозу аддаў душу сваю іншым выхавальнікам. Сапсаваў, паскуднік, паказнікі!

Таму, каб паказнікі не псаваць, усе павінны выходзіць на «промку». Як там працуюць і ці працуюць увогуле — іншая гаворка. Галоўнае — хадзіць, перавыхоўвацца. І я хадзіў, умацоўваў справаздачнасць — каб турэмшчыкі мелі прэміі, каб былі сытымі і поўнымі сілаў на нялёгкую місію перавыхавання.

І назаўтра, пагодным чэрвеньскім днём, я ішоў на промку са шчырымі намерамі пазмагацца за працэнтныя пункты — пазагараць. Пакуль неба дарыла такі шанец, я прыпальваў скуру, якая год не бачыла сонца — скінуўшы кашулю, прагульваўся па пляцы.

Пляц — заасфальтаваная прастора метраў 20 на 50, якую атачаюць некалькі працоўных цэхаў прамзоны. На высокім ганку аднога з будынкаў, насупраць цэха, у якім знаходзілася мая працоўная кніжка, сядзеў на зэдліку нехта белы, быццам анёл ды, пабліскваючы на сонцы, засяроджана чытаў. Заўважыўшы мяне, белы чалавек махнуў рукой і гукнуў:

— Здароў!

— Здароў, — адказаў я, падышоўшы бліжэй.

Анёлам апынуўся сярэдняга росту плячысты жыццярадасны зэк з прасветленым шыракаскулым тварам, блакітнымі вачыма, над якімі чорныя бровы злучаліся ля самога носа, шыракаватыя ноздры якога маглі сведчыць пра характар, а высокі лоб, які завяршаў партрэт, — аб мудрасці ці аб заўчасным аблысенні. Закрыўшы невялічкае выданне Новага Запавету «Братоў Гедэонаў», светлы чалавек адказаў на мой запытальны позірк:

— Гэта я табе ўчора цукеркі перадаў.

— А-а, дзякуй. А то ж я і не пазнаў бы — хутка неяк усё адбылося.

— Не забраў кантралёр?

— Ты што, як мог ён так рызыкаваць здароўем? — пасміхнуўся я і дадаў сур'ёзней. — Не, проста ўзяў на захаванне.

— Ну дык добра, — кіўнула астрыжаная пад нуль галава белага зэка.

Я стаяў перад ім і глядзеў на цэх, разважаючы, чым тут маглі б займацца.

— Пякарня, — кіўнуў суразмоўца.

— А то я думаю: усе зэкі як зэкі — чорныя і запэцканыя, а тут — белыя і чыстыя, — патлумачыў я сваю цікаўнасць і запытаў, кіўнуўшы на Кнігу. — Веруючы?

— Так, канечне.

— Каму — «канечне», а большасці б пуза толькі набіць ды чыфірнуць пад цыгарэтку.

— Так і ёсць, — сумна прамовіў светлы чалавек. — Але і на волі тое ж самае.

— Сапраўды, і на волі... — выдыхнуў я і задумаўся. — На волі толькі патрэбы іншыя.

Цяпер задумаліся мы абодва.

— Хадзіў у царкву па свабодзе? — перапыніў я паўзу, згадаўшы сябра са шклоўскай калоніі, які наведваў пратэстанцкую царкву, потым сышоў у свет, а са свету — у месцы не гэтак аддаленыя.

— Заходзіў пару разоў... І адчуваў у сэрцы, што кліча Бог... але... ведаеш, як бывае — свет праглынуў...

— Ведаю, — паківаў галавою я.

— І вось навука, — белы зэк абвёў рукою будынкі. — Ізноў тут.

— Колькі ж табе вучыцца прапісалі?

— Дванаццаць.

Пры агучванні такіх тэрмінаў не ведаеш што і казаць.

— Зміцер! — гукнуў ад майго цэха Віця, брыгадзір з зэкаў, да якога я быў прыстаўлены. Ці гэта ён да мяне быў прыстаўлены? Разабрацца цяжка.

— Нешта там хочуць, — кіўнуў я пекару. — Пайду пакуль.

— Паслухай, — спыніў ён мяне.

— Ну?

— Хацеў паразмаўляць з табою на адну тэму.

— Можна, — згадзіўся я, — тут жа суполка збіраецца ў царкву па нядзелях. Пойдзеш?

— Пайду.

— Дык во, сходзім, а пасля можна і пагаварыць.

— А ізалятар не выпішуць табе да нядзелі?

— Мо пратрымаюся на волі пару дзён, — усміхнуўся я зэкаўскаму аксюмарану пра волю ў зоне.

Да нядзелі «на свабодзе» ўдалося пратрымацца. А 14-й, перад пачаткам службы, я выйшаў з трохпавярховага будынка, у якім месціўся мой атрад, у «лакалку». «Лакалкай» называюць агароджаную трохпавярховым жалезным прутом тэрыторыю вакол атрада, якая забірае ў зэкаў магчымасці перасоўвацца па ўсёй зоне, лакалізуе іх ля самай хаты. Як і любы плот у вёсцы якой, лакалка мае весніцы, але тут — жалезныя і на электрычных замках. Таму з панадворка зонаўскага зэк выйсці самастойна не можа — толькі разам з заўгаспам ці супрацоўнікам калоніі.

Агледзеўшыся ў «лакалцы», якая ў выходны сонечны дзень была падобна да ходніка сталічнага праспекта перад «Макдональдсам», я ўбачыў ля весніц пекара. Белы чалавек сёння быў гэткім жа шэра-чорным, як усе, але выдзяляў яго з агульнае масы прасветлены твар і вялікая Біблія, якую ён, узяўшы рукі пад пахі, прыціскаў да грудзей.

Пакойчык, дзе збіраліся па нядзелях хрысціяне, знаходзіўся ў суседнім будынку, старым корпусе зоны — базылянскім кляштары. Вернікі, будуючы яго ў XVII стагоддзі, наўрад ці маглі ўявіць, што сцены гэтыя будуць служыць людаедам бальшавіцкім, потым нацысцкім, потым ізноў бальшавіцкім, а ўрэшце стануць самай жорсткай зонай Беларусі, дзе толькі ў некалькіх пакоях раз на тыдзень будзе дазволена маліцца.

А каб у пакойчык той трапіць, трэба было загадзя падаваць заяву адміністрацыі. І нядзельны паставы, які дзяжурыў на выхадзе з дзвюх «лакалак», правяраў па спісе, ці не прапіснуўся ў шэрагі вернікаў лішні — які-небудзь ахвотны прабрацца ў суседні корпус да земляка на гарбату.

Я ўжо бываў раней тут на службе, якую правіў дыякан мясцовай пратэстанцкай суполкі. Вось і цяпер кантралёр пералічыў паству па спісе, і я памкнуўся ўжо ісці за астатнімі, але заўважыў, што светлы чалавек стаіць на месцы. І таму яго падахвоціў:

— Дык хадзем!

— Не, я ж у праваслаўную, — адмоўна закруціў ён галавою.

— Ну... давай тады... мо як убачымся, — прамармытаў я і пасунуўся за адзінаверцамі, якія ўжо заходзілі ў суседні лакальны ўчастак кляштарнага корпуса. Яшчэ пагаворым — бліжэйшыя паўгода нікуды з зоны я не збіраюся.

*Працяг будзе.*

# «Ігар быў феерычным»

12 ліпеня ў Асіповічах раптоўна памёр41-гадовы бард **Ігар Сімбіроў**.

11 ліпеня Сімбіроў прыехаў у Асіповічы з канцэртам, але нечакана яму стала кепска. У бальніцы ўратаваць не змаглі: ацёк галаўнога мозгу. Яму ішоў 42 год.

Ігар нарадзіўся 23 студзеня 1972 у Асіповічах. У 16-гадовым веку з'ехаў у Днепрапятроўск, скончыў там тэатральную вучэльню, працаваў у лялечным тэатры. У 1998 вярнуўся з Украіны на радзіму, адразу ўключыўся ў беларускі музычны і дэмакратычны рух. За гэта ў 2000 яго выключылі з Унівэрсітэта культуры.

На прэзідэнцкіх выбарах-2010 Сімбіроў працаваў у камандзе Ула-дзіміра Някляева. І пасля Плошчы адсядзеў 15 сутак у жодзінскім ізалятары.

«Ён запомніўся мне надзвычай вясёлым і пазітыўным чалавекам, — кажа актывістка «Маладога фронту» Наста Дашкевіч. — І гэтую яго атмасферу адчувалі ўсе навокал. Ён выступаў сведкам па справе Някляева — быў у калоне, калі адбыліся выбухі ля аўтобуса з тэхнікай. Ігар меў акцёрскія здольнасці, і яго выступ быў харызматычным. Калі суддзя запытала, ці памятае ён, што казалі нападнікі, той у адказ перапытаў, ці дакладна яна хоча гэта чуць. Пасля па зале некалькі секунд разлятаўся адборны мат. «Што вы робіце?» — усклікнула суддзя. «Дык вы самі ж папрасілі пераказаць пачутае!» — адказаў Ігар».

Да скону Сімбіроў дамагаўся ад КДБ, каб яму вярнулі канфіскаваныя падчасператрусу рэчы, у тымі ліку гітару і дзённік. Але марна.

Апошнім часам Ігар злоўжываў алкаголем, што стала ў выніку адной з прычын смерці. «Ён не ратаваўся ў спіртных напоях, ён проста хварэў», — узгадвае музыка Зміцер Бартосік, з якім Ігар працаваў над праектам «Барды Свабоды».

Гэты чалавек быў яскравым і феерычным. Ён жыў сваёй творчасцю і, як бы сімвалічна ні гучала, і памёр у ёй. Ігар браў у рукі гітару і пераменяўся. Ён заўсёды быў поўны планаў і энергіі, ён заўсёды працаваў. Сваёй творчасцю ён імкнуўся абудзіць у савецкіх людзях нацыянальнае пачуццё гонару і рабіў гэта без пафасу і графаманства, як часта бывае. Калі б ён застаўся ва Украіне, ён, пэўна, застаўся б жывы, і лёс яго склаўся б зусім інакш. Але ні ў якой іншай культуры, апроч беларускай, ён не жадаў адбыцца. Шкада, што пра вартых людзей, мы ўзгадваем толькі пасля іх смерці».

**Вольга Гарапучык**



## Як беларускія літаратары з танзанійскімі сувязь наладжвалі

Выйшаў новы нумар **альманаха «Тэксты»**.

На вокладцы стаіць №4. Аднак ужо выходзіць, напрыклад, №12. У гэтым плане парадку не трымаюцца. Галоўны рэдактар «Тэкстаў» Зміцер Вішнёў параўноўвае альманах са «звяругай, якая мае моцныя капыты, хвост і рогі, але па статусе, настрої і габарытах не дацягвае да чорта».




У нумары Юрась Пацюпа друкуе кароткі расейска-беларускі слоўнічак (як трэба гаварыць і як не трэба). Віктар Жыбуль прадставіў публіцы свой дзённік за 1997 год, там ён расказвае, дзе знайшоў Вальжыну Морт, як у Юрася Барысевіча цэнзары памянялі «гарэлку» на «кефір», а таксама як «Бум-Бам-Літ» хацеў наладзіць сувязі з танзанійскімі літаратарамі. Чытво вясёлае.

Дарэчы, сям'я Жыбуляў-Бурлак друкуецца ў «Тэкстах» у поўным аб'ёме. Бо ёсць яшчэ п'еса Джэці (Веры Бурлак) «Здарэнне з Нестарам, або Нехта», а таксама вершы 7-гадовага Кастуся Жыбуля.

Хапае ў нумары і літаратурных разборак. Юрый Станкевіч не шкадуе неласкавых словаў для Марыйкі Мартысевіч, а Лада Алейнік — для Юліі Шаровай.

У перакладной частцы — урыўкі з раманаў Рышарда Капусцінскага і Сяргея Жадана.

Шукайце «Тэксты» ў кнігарнях і ў незалежных распаўсюднікаў.

**ЗП**

## Дзёрзкая «Макулатура»

Часопіс зрабіў нумар, **прысвечаны Англіі**.




«Такую рэч, як Англія, беларусу проста грэх абмінаць: тут вам і клубніцы, і Таўэр ов Ландан, і чырвоныя тэлефонныя будкі... Англійскі тэмперамент, лэдзі і джэнтэльмэны, традыцыі аберагання сваёй культуры — усе гэтыя якасці мусяць быць узорам для нас», — кажа пісьменнік Сяргей Календа, які выдае «Макулатуру» разам з мастачкай Васілісай Паляніной-Календай.

Пад яскравай вокладкай знайшла месца цэлая «літаратурная паліца». Адметнасцю выдання з'яўляецца мікс твораў ужо вядомых і моцных пісьменнікаў (Віктар Жыбуль, Уладзіслаў Ахроменка, Альгерд Бахарэвіч, Віктар Марціновіч, Адам Глобус) з аўтарамі маладымі, з адпаведнай для іх дзёрзкасцю, эксперыментамі, хай дзесьці ў сыраватай форме.

Акрамя айчыннай літаратуры ў гэтай «Макулатуры» можна пачытаць творы Чарльза Букоўскага, Хэнтэра С. Томпсана, Пялевіна. Часопіс выдатна аформлены: «Макулатуру» хочацца не толькі чытаць і трымаць у руках як твор літаратурны і мастацкі, але і паказваць сябрам ды знаёмым.

«Макулатуру» з «Дзённікамі па Англіі» можна знайсці ў кнігарнях і ў незалежных распаўсюднікаў.

**ВГ**

**In memoriam**

## Кастусь Харашэвіч

Прыйшла вестка, што не стала мастака Кастуся Харашэвіча. А толькі 6 ліпеня яму споўнілася 86 гадоў.

Харашэвіч нарадзіўся ў 1927 у вёсцы Літва Маладзечанскага раёна. Быў вучнем педагога Барыса Кіта ў Маладзечанскай гандлёвай школе.

Ён успамінаў, што да мастацтва прыйшоў ужо сфарміраванай асобай. Першую сапраўдную карціну ўбачыў у 20-гадовым веку: яго гэта ўзрушыла. Пачаў капіяваць чужыя палотны. У мастацкае вучылішча паступіў аж у 27. А да гэтага яго цікавіла літаратура.

На карцінах Харашэвіча — міжваенная Заходняя Беларусь. Уні-кальная магчымасць зір-нуць у колеры на тагачасны свет. Ён аўтар яскравага палатна «Паўстанне нарачанскіх рыбакоў», яму належыць і «Выступленне Браніслава Тарашкевіча перад сялянамі Заходняй Беларусі».

Цывілізацыйны злом, які перажывала Беларусь у 1940—50-я, адбіўся і на лёсе мастака. Харашэвіч хацеў дапамагчы дзяўчыне, бацьку якой савецкая ўлада залічыла ў кулакі. Думаў, ажэніцца з ёй і выратуе ад высылкі. Замест гэтага яго самога пераследавалі як кулацкага зяця: выключылі з камсамола. Яны пераехалі ў Вільню, пасля і развяліся. Дзяцей не мелі.

У другім шлюбе мастак меў сына. Ён адслужыў у Афганістане, вярнуўся — і загінуў ужо дома. Выпаў з акна. Мастак да смерці лічыў, што гэта не была выпадковасць.



Ад пачатку 2000-х Харашэвіч ствараў галерэю партрэтаў гістарычных дзеячаў: Купала, Багушэвіч, Ластоўскі, Кіт, Рак-Міхайлоўскі, Тарашкевіч...

Але найбольш ён напісаў пейзажаў — за пяцьсот. Яго імпрэсіяністычная карціна «Пасля навальніцы» ўвайшла ў лік 100 найлепшых твораў мастацтва Беларусі XX стагоддзя паводле версіі «НН».

**Кастусь Матушыч**

**Сцісла**

### Пачаўся збор подпісаў за помнік Манюшку

Помнік кампазітару да яго 200-годдзя прапануюць паставіць у Мінску на плошчы Свабоды, тварам да гатэля «Еўропа». Збор подпісаў пад зваротам да старшыні Мінгарвыканкама Мікалая Ладуцькі ідзе ў інтэрнэце, на сайце Change.org.

### Фільм «Вышэй за неба» трапіў у праграму найлепшых

Маладзёжная драма «Вышэй за неба» Андрэя Курэйчыка і Дзмітрыя Марыніна ўвайшла ў праграму найлепшых фільмаў СНД 2012—2013 на фестывалі «Залаты абрыкос» у Арменіі. 10-ы міжнародны кінафэст прайшоў у Ерэване 7—13 ліпеня. Асобна журы адзначыла саўндтрэк фільма з музыкай гуртоў Akute, Vincent, «Ляпіс Трубяцкой» і N.R.M. Гэта ўжо пяты міжнародны фестываль, у якім удзельнічае беларускі фільм

### Джаан Роўлінг напісала дэтэктыў пад псеўданімам

Джаан Роўлінг — аўтарка кніжнай эпапеі пра прыгоды юнага чараўніка Гары Потэра — прызналася, што пад псеўданімам апублікавала дэтэктыўны раман The Cuckoo's Calling. У ім расказваецца гісторыя ветэрана вайны, які стаў прыватным шпіёнам. Раман выйшаў у красавіку, пісьменніца абрала псеўданім Роберт Гэлбрайт.

**СМ**

# Правілы жыцця беларускага баптыста

**Што людзі ведаюць пра баптыстаў, акрамя таго, што ім «усё нельга»?**

Знаёмцеся — Анатоль Клімовіч, 36 гадоў, рабочы па абслугоўванні будынка ў дзіцячым садку. А яшчэ — вернік царквы Евангельскіх хрысціян-баптыстаў (ЕХБ) «Перамяненне».

Мне было 20 гадоў, калі я пачуў пра Бога, паверыў і прыняў хрышчэнне. Да гэтага я не зусім разумеў пытанні веры, бо ні мае бацькі, ні абедзве бабулі і дзед не праяўлялі сябе ні як атэісты, ні як вернікі. Я думаў, што нешта ёсць, але дзе ёсць і хто ёсць — паняцця не меў.

Я ішоў да веры доўгія гады. Яшчэ да арміі, падчас свайго навучання ў школе, я знайшоў у бацькоў кнігу Л.Таксіля «Пацешная Біблія», дзе аўтар высмейваў веру ў Бога. Там былі вытрымкі з Бібліі і тлумачэнні аўтара. Мне захацелася знайсці і прачытаць Біблію. Пазней, у вучылішчы, я ў кагосьці ўбачыў Евангелле і ўзяў пачытаць. Яно мяне моцна ўразіла і я стаў больш задумвацца пра Бога.

У маладосці я меў нейкае ўяўленне пра хрысціянства (у выглядзе праваслаўнай царквы), але, чытаючы Новы Запавет і гледзячы на праваслаўе, я ўсё больш пераконваўся, што дзесьці павінна быць менавіта такая царква, пра якую я чытаў у Евангеллі. Пазней, калі я ўжо служыў у арміі, я змог больш даведацца пра Бога, бо мне давялося служыць з сынам пастара царквы ЕХБ з Мінска. Пасля звальнення ў запас я стаў наведваць мінскую царкву ЕХБ «Раство Хрыстова», дзе канчаткова прыйшоў да веры.

З каталіцызмам на той момант я быў незнаёмы, а ў праваслаўі я не ўбачыў Бога. Чаму? З-за абрадаў, а не з-за паводзінаў нейкіх святароў. Святары таксама людзі, усякае бывае.

• Мы, баптысты, не верым у «цудатворныя» абразы, але мы верым у цудатворнага Хрыста. Мы не пакланяемся мёртвым ідалам, але пакланяемся толькі жывому Богу. Мы не молімся «святым» угоднікам і пасярэднікам, таму што ёсць толькі адзін пасрэднік паміж Богам і людзьмі — Ісус Хрыстос. Так кажа Біблія, і менавіта яна з'яўляецца для нас найвышэйшым аўтарытэтам.

• Святых, як і апосталаў, мы павінны паважаць, і пераймаць іх веру, а не маліцца ім, перад іх выявамі. Культ абразоў, малітва святым, а не Хрысту — гэтага мы прыняць не можам, бо гэта ідзе ў разрэз са Святым Пісаннем.

• Напэўна, баптысты вызначаюцца самай вялікай талерантнасцю да іншых рэлігій.

• У дачыненні да ўлады мы стараемся паступаць так, як напісана ў Бібліі (Першае пасланне Пятра 2:13): «Дык вось, слухайцеся ўсякага людскога начальства, дзеля Госпада: хай тое цару, як найвышэйшай уладзе і г.д». Але трэба быць пакорлівым да таго часу, пакуль гэта не супярэчыць Богу. Калі ўлады будуць прымушаць мяне грашыць, я маю права не слухаць такой улады. Зноў жа, месца з Пісання (Дзеі св. апосталаў 05:29): «Пётра і апосталы ў адказ сказалі: трэба слухацца болей Бога, чым людзей».

• У пытанні адзення кожная царква сама ўсталёўвае патрабаванні, але я за хустку і спадніцу для жанчын. Таму што гэта не патрабаванне, а, хутчэй, рэкамендацыя. Форма адзення на выратаванне душы не ўплывае, але ў той жа час з'яўляецца паказчыкам духоўнасці. Яна адлюстроўвае ўнутраны свет чалавека. Ну і, з другога боку, вы прыйшлі памаліцца Богу, а тут перад вамі дзяўчо ва ўсім абцягваючым. Дзе будуць вашы думкі?

• Калі мы свядома робім шкоду здароўю, то гэта грэх. Курэнне і алкаголь гэта тое, што нас павольна забівае, таму гэта грэх. Тое ж тычыцца эўтаназіі і суіцыду. Наша жыццё належыць Богу і толькі Ён вырашае, калі яго перапыніць.

• Маё стаўленне да шлюбу цалкам адпавядае біблійнаму. Разводзіцца не варта, а калі ўжо давялося, то лепш у паўторны шлюб не ўступаць. Паўторны шлюб магчымы толькі калі першага мужа ці жонкі няма ў жывых.

Жонка таксама была веруючай, калі мы пазнаёміліся. Вяселле было без гарэлкі, першы сэкс быў пасля шлюбу. Дзеці цяпер ходзяць з намі ў царкву, і ім цікава, але прымушаць іх прымаць хрышчэнне ніхто не будзе. Яны павінны самі, свядома прыйсці да гэтага.

• Аднаполыя шлюбы? Я супраць таго, каб іх узаконілі, а забараніць людзям грашыць я не магу. Бог вырашыць, што іх чакае, можа яны перад смерцю зразумеюць, што рабілі, і пакаюцца. Але, як напісана ў Бібліі, аднаполы сэкс — гэта брыда перад Богам.

**Баптысты — як адна сям'я. Адзін другому дамапагаюць »**

• Калі фільм прапагандуе грэх, то, натуральна, я яго глядзець не буду, калі песня заклікае рабіць грэх, то яе я таксама не буду слухаць. З нашых я слухаю Аляксандра Патліса, падабаюцца некаторыя песні з «Кіно», «ДДТ», а добрых фільмаў свет, вось нядаўна выйшаў серыял «Біблія 2013», мне спадабалася.

• Сённяшняе тэлебачанне — гэта смецце.

• Баптысты — гэта практычна адна сям'я. Калі ў цябе праблемы, то табе заўсёды дапамогуць. Напэўна, гэта таму, што нас мала ў параўнанні з тымі ж праваслаўнымі, а яшчэ таму, што такая воля Божая: дапамагаць адзін аднаму. Бо залатое правіла хрысціянства нам кажа, каб жылі мы з людзьмі так, як нам бы хацелася, каб паступалі з намі.

• Найвышэйшае шчасце — гэта знайсці Бога. Вось кажуць: шчасце гэта кахаць і быць каханым, але нямногія разумеюць, што крыніца кахання да Бога, калі мы маем Бога ў душы, дык Ён дае нам сілы кахаць і прымаць каханне ад блізкага нам чалавека, так што найвышэйшае шчасце гэта знайсці Бога. Як гэта ні банальна гучыць, але гэта так.

• Найбольшае няшчасце — гэта мне было знаёма — аказацца без Бога, калі ў душы пустата і няма чым гэтую пустату запоўніць.

• Што б я спытаў у Бога? Ён Творца ўсяго свету і носьбіт абсалютнай ісціны. А спытаць, вось так наўскідку, нават і не ведаю. Хоць магчыма задаў бы пытанне: «У чым я Яго разумею няправільна?».

**Запісаў Уладзіслаў Фіцнэр**

# Беларуская глыбіня. **Шлях і крыж Аўтуховіча**

Піша **Павел Севярынец**.

*...хто хоча ісці за Мною, зрачыся сябе, і вазьмі крыж свой, і ідзі за Мною следам. Марка 8:34*



**Павел Севярынец**

палітык, пісьменнік. Сузаснавальнік Маладога Фронту, пасля Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі. Асуджаны на тры гады «хіміі» па справе так званых «масавых беспарадкаў» — так лукашэнкаўцы называюць пратэсты з патрабаваннем дэмакратыі і справядлівасці, што адбыліся ў дзень выбараў 19 снежня. Адбывае пакаранне ў Купліне Пружанскага раёна.

Почырк у яго проста любата. Буйны, цвёрды, літары гранёныя, кожнае слова — нібы надпіс, адчаканены на гербе. Радкі шыхтуюцца пагвардзейску, выступаюць роўна, стройна, пячатаюць кропкі і коскі так, што чытаеш і чакаеш: вось-вось грымне «Мы выйдзем шчыльнымі радамі». Менавіта такі почырк мусіў быць у летапісцаў, манахаў, што ад рукі выводзілі ў скрыпторыях Біблію, або ў рыцараў, якія выклікалі супраціўніка на бой.

«Фізічна чалавек можа вытрымаць амаль усё, ён толькі гэтага не ведае, пакуль не паспрабуе» — піша Мікалай Аўтуховіч у лісце з прастакутнай байніцай штэмпеля «г.Гродна. турма №1». — Лічу, што кожны мужчына павінен абараняць сваю годнасць і гонар, быць абаронцам сваіх родных і абавязкова — Радзімы».

І ён адказвае за гэтыя словы. Год за годам у каменных мурах ды падвалах, праз галадоўкі, якія трымае месяцамі, сціскае ныючыя зубы, каторыя не даюць лячыць, — і злёгку ўсміхаецца канвою.

Аўтуховіч *ваўкавыскі*: горада, чый сімвал — ашчэраны воўк.

**Вуліца і выхавала байца, нецярпімага да маладушша, хлусні і здрады »**

О, гэтая векавечная Літва!.. Гэтыя халодныя празрыстыя далячыні з калыханнем пералескаў на ўзгор'ях і ціхімі змеямі рэчак, гэтае сатканае з малітваў і шэптаў натхнёнае Панямонне... Усё тая ж таемная і бяздонная беларуская глыбіня.

Маленькаму ліцвіну з Ваўкавыску не споўнілася і шасці, калі з сям'і сышоў бацька. Матуля працавала па зменах на хлебазаводзе, мыла посуд у школе. Мікалай гадаваўся на вуліцы. Вуліца, паводле ягоных словаў, і выхавала байца, нецярпімага да маладушша, хлусні і здрады. Сярод аднагодкаў быў важаром, таму класны кіраўнік як мог стараўся зрабіць з яго старшыню піянерскага атрада. Як і ўсе савецкія дзеці, Мікалай ненавідзеў капіталістаў — і верыў настаўнікам, што амерыканцы робяць цукеркі з нафты. (Потым, на прыёме ў амбасадаркі ЗША Карэн Сцюарт, убачыўшы на стале цукерачніцу, Мікалай папрасіць пакаштаваць... Салодкі дзіцячы міф растане на языку пад дружны смех прысутных.)

Вучыўся на механіка, зарабляў на разгрузцы вагонаў. Потым — войска, кіроўца ў ракетных частках асаблівага прызначэння. І Афганістан. За аперацыі, у тым ліку ахову моста пад Кандагарам, узнагароджаны медалямі «За адвагу» і «За баявыя заслугі», а таксама ордэнам Чырвонай зоркі.

У 1991-м імперыя, якая пасылала яго паміраць у горы, рухнула. Аўтуховіч вярнуўся дахаты — і трапіў у горад пад бел-чырвона-белым сцягам. Пачаў будаваць жыццё. Заняўся бізнесам. Наладзіў у Ваўкавыску службу недарагіх таксовак — гаражы пачыналіся адразу за домам. Зрабіў горад зручным для тых, хто спяшаецца. Як высветлілася, паспяшаўся.

Працаваць не далі. Знайшоўся, бач: занадта разумны.

І што ж загадаеце рабіць герою вуліцы, байцу-афганцу шляхецкай крыві, калі ў родным горадзе лоб у лоб сутыкаешся з высокапастаўленай подласцю і афіцыйным рабаўніцтвам? Аўтуховіч прымае выклік, ідзе на «выбары»-2004 — і пачынае прылюдна адно за адным вывarочваць бярвенне з бессаромных вачэй раённага начальства.

Ясная рэч, крымінальная справа. Прычым следчы Аліхвер, аформіўшы «ўхіленне ад падаткаў» на самога Аўтуховіча, праз некалькі гадоў ірване на ПМЖ у ЗША: фотаздымкі шчаслівага вандроўніка ў сонечнай Атланце цяпер можна шукаць у сеціве як адказ на запыт «кожнаму сваё. Карцінкі».

Вось менавіта, а Аўтуховічу — турма. 74-дзённая галадоўка ў гродзенскім СІЗА, падчас якой чалавек губляе не толькі 40 кг, але і ўсё здароўе. І такі дамогся свайго — вызвалення перад судзілішчам на хатні арышт.

Ледзь ачуняўшы, Мікалай сыходзіць у падполле, і, быццам Робін Гуд, рассылае зваротy да ўсіх жыхароў краю. Два месяцы ідзе аблава, па ўсіх райаддзелах расклеена фота з папярэджаннем пра ягоную паляўнічую зброю — і ўся карная машына ледзь-ледзь дае рады Аўтуховіча затрымаць.

«Мне спадабаліся словы з Бібліі — «не будзь пераможаны злом, а перамагай зло дабром», — піша Мікалай. — Чалавек не можа, ці, лепш казаць, не павінен схіляцца перад злом, перад знявагаю сваёй годнасці».

Зона. Галадоўкі. Прызнанне палітычным вязнем. І вызваленне.

Мікалай дачакаўся вяртання свайго бацькі: той пачаў працаваць на ягонай фірме. Але не паспелі патлумачыцца, адкрыць адзін перад адным душы: бацьку забрала смерць, а на сына зноў абвясцілі дзікае паляванне.

Кожны ліцвін, кожны шляхціц, кожны мужчына, у рэшце рэшт мусіць быць гатовы: калі ты ўвязаўся ў вайну, ды яшчэ за праўду — гэта звычайна не на жыццё, а на смерць. Усяго некалькі месяцаў на волі — і зноў следства, на гэты раз — абвінавачванне ў тэрарызме. Праслаўлены гранатамёт, «падрыхтоўка замаху» на гарадзенскіх абласных чыноўнікаў...

У судзе справа развальваецца на дымныя руіны, і ўся краіна бачыць, што сярод рэчавых доказаў «злачынства» валяюцца ўсяго пяць патронаў, выпадкова знойдзеных падчас перагрусаў. Прысуд — 5 гадоў і 2 месяцы строгага рэжыму. Івацэвічы. Зноў галадоўкі. Адмовы лячыць хворыя зубы. Карцары. Штрафныя ізалятары. Умовы, якія ва ўсім свеце называюць катаваннямі. І, нарэшце, — глухая турма ў Гродне, у цяні вежаў езуіцкага касцёлу, дзе сядзелі яшчэ Напалеон Орда, паўстанцы Каліноўскага, Прытыцкі і Браніслаў Тарашкевіч.

«Бог глядзіць за ўсім, — нагадвае Аўтуховіч. — Таму кожны атрымае тое, што зарабіў».

Адзін з апошніх лістоў ад Мікалая прыйшоў у самаробнай капэрце, склеенай з вокладкі ад школьнага сшытка. Дажыліся, думаю, у палітвязня капэртаў няма. Дасылаю — і атрымліваю адказ: «Не хвалюйся, усё ёсць. Проста няма жадання працаваць на тых, хто мяне пасадзіў за краты. А душы хоча штосьці рабіць... Вось і майструю капэрты з усяго, што ёсць пад рукамі. Іншы раз прашу, каб дасылалі каляровыя лісты, клею з іх».

Хаця б разок каўтнуць вольнага паветра — за яго. Уявіце, як рассылае з гродзенскіх турэмных муроў па ўсім краі лёгкіх паштовых птушак з каляровымі крыламі паланёных шляхціц з Ваўкавыску... Як глядзіць на шэрае беларускае неба, укрыжаванае чорнымі квадратамі... І як ідзе праз калідоры, па завучаных напамяць прыступках былога калегіюма езуітаў, збіваючы ногі, увесь збалелы ад галадовак, ранаў і шнараў, сашчапіўшы тыя клятыя зубы, сціўшы плоць у кулак, са сваёй заўсёднай ціхай — не дачакаюцца — усмешкай, па слядох манахаў і інсургентаў...

Тым самы шляхам, якім дагэтуль мерае крокі па цесных камерах нашых каменных сэрцаў зняволены, знясілены, асуджаны на неба праз крыж Хрыстос.

*Куплін*

**Напішыце Аўтуховічу**

Напісаць ліст Мікалаю Мікалаевічу Аўтуховічу можна па адрасе: 230023, вуліца Кірава 1, Гродна, турма № 1. Яшчэ прасцей даць тэлеграму, патэлефанаваўшы з гарадскога тэлефона на № 166.

# Курская дуга: невядомыя факты

Лёс пераломнай бітвы Другой сусветнай вырашаўся на далёкай Сіцыліі. Піша **Анатоль Сідарэвіч**.

Калі стала ясна, што брытанскія і амерыканскія войскі вось-вось перамогуць немцаў ды італьянцаў у Паўночнай Афрыцы, Мусаліні сказаў: толькі дурань не разумее, што наступным крокам будзе высадка аліянтаў на Сіцыліі.

Дучэ як у ваду глядзеў. Але што ён мог? Паўночнаафрыканская кампанія паказала, што ў Італіі няма баяздольнага войска. Абараніць Сіцылію мог толькі Вермахт.

Брытанская разведка ведала, што на Сіцыліі інтэнсіўна будуюць умацаванні і што за высадку саюзнага дэсанту давядзецца заплаціць вялікую цану. Таму належала знайсці дурняў у Берліне, якія б паверылі, што саюзнікі высадзяцца дзе заўгодна, толькі не ў Сіцыліі. Так пачалася распрацоўка аперацыі «Мінсміт» («Начынка»).



Высадка саюзнікаў на Сіцыліі, 10 ліпеня 1943.

## Гітлер марудзіць

23 кастрычніка 1942. 8-я брытанская армія пад камандаваннем генерала Бернарда Мантгомеры ламае супраціў немцаў ды італьянцаў пад Эль-Аламейнам на поўначы Егіпта. 2 лістапада пачалася аперацыя «Суперчардж», мэтай якой была ачыстка Егіпта і Лівіі. А 8 лістапада саюзныя войскі пад камандаваннем генерала Эйзенхаўэра высадзіліся ў Марока і Алжыры і пачалі аперацыю «Торч». У выніку Алжыр і Марока былі выведзены з-пад улады пранямецкага рэжыму Вішы.

Сталін, якому Чэрчыль раскрыў план аперацыі «Торч» яшчэ ў жніўні, 19 лістапада пачаў наступ пад Сталінградам. Бітва завяршылася ў лютым 1943-га і запатрабавала ад саветаў крайняй мабілізацыі рэсурсаў. Але перамога пад Сталінградам не азначала, што Вермахт страціў стратэгічную ініцыятыву на Усходнім фронце. Так, прынамсі, на стан рэчаў глядзеў генерал-фельдмаршал Эрых фон Манштайн. З моманту высадкі амерыканцаў у Паўночнай Афрыцы, лічыў Манштайн, адкрыццё другога фронту ў Еўропе стала пагрозліва блізкім. Немцы мусілі выйграць час, каб разбіць Чырвоную армію. Дзеля гэтага быў распрацаваны план аперацыі «Цытадэль».


Калі пад Прохараўкай адбывалася найбольшая танкавая бітва ў гісторыі, Гітлер вырашыў перакінуць свае найлепшыя дывізіі ў Італію.

Пачаць яе Манштайн хацеў у сярэдзіне мая — як толькі падсохнуць дарогі. Ён і маршал Гайнц фон Клюге даказвалі Гітлеру: марудзіць нельга. Савецкі Саюз штомесяц вырабляе 1500 (насамрэч 2000 — АС) танкаў; заходнія аліянты вось-вось увойдуць у Туніс, а тады магчымае адкрыццё другога фронту ў Еўропе. Але Гітлер загадаў чакаць з «Цытадэллю» да сярэдзіны чэрвеня. А тым часам 13 чэрвеня 1943 на мысе Бон у Тунісе капітулявалі 250 тысяч нямецкіх і італьянскіх вайскоўцаў...

## Жыццё пасля смерці

Вядома, што Чэрчыль абяцаў Сталіну адкрыць 2-гі фронт ў Еўропе ў жніўні—верасні 1943-га. Сталін жа хацеў, каб гэта адбылося раней. Гэтаму і павінна была паслужыць аперацыя «Хаскі» — высадка дэсанта на Сіцыліі.

Рузвельт і Чэрчыль на нарадзе пад Касабланкай 23 студзеня 1943 далі сваім збройным сілам дырэктыву: «Акупацыя Сіцыліі з мэтаю: 1) забеспячэння большай бяспекі камунікацыйных ліній у Міжземным моры, 2) адцягнення сілаў Нямеччыны ад рускага фронту, 3) узмацнення націску на Італію». Цяпер у справу ўключаліся камандуючыя і іх штабы.

Але як прымусіць немцаў паверыць, што высадка будзе ў іншым месцы? Як рыхтавала аперацыю брытанская разведка можна даведацца з кнігі разведчыка Івэна Мантэгю «Чалавек, якога не было». Цела мёртвага чалавека з дакументамі на імя капітана марской пяхоты Уільяма Марціна даставілі на субмарыне ў іспанскія воды. Да рукі «капітана» быў прышпілены партфель з «сакрэтнымі» паперамі, у тым ліку лістом намесніка начальніка брытанскага генштаба да камандуючага брытанскімі войскамі ў Паўночнай Афрыцы. У лісце быў намёк, што саюзнікі высадзяцца на Сардыніі і ў Грэцыі.

Разлік апраўдаўся. Цела «Уільяма Марціна» паднялі з вады ля горада Уэльва 30 красавіка, пра дакументы даведаліся немцы. Дэзе паверыў і Гітлер. Ужо ў маі з Усходняга фронту на Балканскую паўвыспу была перакінутая 1-я танкавая дывізія. Таксама Гітлер загадаў умацоўваць Сардынію і Корсіку. Будаўніцтва на Сіцыліі было практычна спыненае.

## Аперацыя «Цытадэль»

Тым часам на Усходнім фронце панавала нерашучасць. Сталін і начальнік яго генштаба маршал Васілеўскі стварылі ў раёне Курскай дугі абарончыя ўмацаванні. І Гітлер усё адкладаў наступальную аперацыю «Цытадэль», чакаючы, пакуль заводы вырабяць дастаткова новых танкаў. Стаўка рабілася на славутыя «тыгры». Да Курскай бітвы была наладжана і вытворчасць «пантэраў».

Бітва пачалася 5 ліпеня 1943. Наступалі дзве групы нямецкіх армій: «Цэнтр» пад камандаваннем маршала Клюге, «Поўдзень» на чале з Манштайнам. Чырвоная ж армія абаранялася, у яе была такая дырэктыва: выматаць праціўніка ў абарончых баях, а потым перайсці ў наступ (дзеля гэтага быў створаны рэзервовы Стэпавы фронт).

Войскі фон Манштайна наступалі ў прохараўскім кірунку, дзе адбылася знакамітая танкавая бітва. Дзіўна, але пра бітву ў «Беларускай Энцыклапедыі» няма асобнага артыкула. Звесткі пра яе вынікі супярэчлівыя. Хто перамог пад Барадзіном у 1812-м? Так і пад Прохараўкай — няясна. Хоць страты Чырвонай арміі ў людзях і машынах былі ў разы большыя (4 савецкія танкі на 1 нямецкі).

Войскі маршала Клюге не дасягнулі пад Курскам істотнага поспеху, затое войскі Манштайна глыбока ўкліныліся ў савецкую абарону. Манштайн быў ужо цалкам упэўнены ў поспеху. Але тут нямецкае камандаванне мусіла пераключыць увагу на поўдзень Еўропы.

## Спыніць наступ!

За два дні да пачатку бітвы пад Курскам брытанская і амерыканская авіяцыя пачала бамбіць аэрадромы на Сіцыліі і Сардыніі. Былі знішчаныя 4 з 5 чыгуначных паромаў, што злучалі Апенінскі паўвостраў з Сіцыліяй. Да апошняга моманту праціўнік не ведаў, дзе ж будуць дэсантавацца аліянты. А высадка адбылася тады, калі праціўнік не мог і падумаць: падчас шторму на моры.

Саюзнікі дэсантаваліся ў Сіцыліі 10 ліпеня. 12 ліпеня пачалася танкавая бітва пад Прохараўкай. А 13 ліпеня, калі бітва яшчэ ішла, Гітлер выклікаў Клюге і Манштайна да сябе. Нягледзячы на пярэчанні апошняга, фюрэр загадаў: спыніць наступ! Перакінуць сілы на Апеніны! Бо высадка на Сіцыліі азначала хуткае ўварванне ў Італію.

Савецкі маршал Іван Баграмян сцвярджаў, што высадка на Сіцыліі ніяк не паўплывала на сыход Курскай бітвы. Нам жа вядома, што Гітлер вырашыў перакінуць на Захад элітны II танкавы корпус СС, у які ўваходзілі славутыя дывізіі «Лейбштандарт СС Адольф Гітлер», «Дас Райх» і «Тотэнкопф». І танкавы корпус СС, які стваралі для Усходняга фронту, таксама пайшоў у Італію.

## Другі фронт

Неўзабаве пасля высадкі на Сіцыліі Мусаліні быў адхілены ад улады і арыштаваны. З верасня, калі саюзнікі дэсантаваліся на поўдні Апенінскага паўвострава, Італія выйшла з вайны. Як жартавалі ў той час, вось Берлін—Рым—Токіа зламалася. Гэта дазволіла Чырвонай арміі пачаць шырокі наступ ва Украіне.

Высадкі саюзніцкіх дэсантаў у Марока і Алжыры, у Сіцыліі і на Апенінах далі багаты досвед такога роду аперацыяў, які прыдаўся ў Нармандыі.

Тады, у 1944-м, паўторыцца сітуацыя лістапада 1942-га: перш, чым рушылі саветы, пачалі саюзнікі. Высадка ў Нармандыі была 6 чэрвеня, а 23 чэрвеня пачалася аперацыя «Баграціён».

І ўсё ж: чаму ў савецкай і часткова ў постсавецкай літаратуры сцвярджаецца, што саюзнікі адкрылі другі фронт менавіта ў 1944, а не на год раней? Такая была ідэалагічная ўстаноўка. Найлепш яна сфармулявана ў падручніку «Найноўшая гісторыя» для X класа: «Савецкі Саюз строга выконваў узятыя на сябе саюзніцкія абавязацельствы. Але ЗША і Англія іх груба парушалі». Тану, маўляў, і адцягвалі адкрыццё другога фронту ў Еўропе. І многія з нас па-ранейшаму застаюцца ў палоне бальшавіцкіх міфаў.

**Эканоміка ЗША і Вялікабрытаніі**

ў 1930-я не была мілітарызаваная, як гаспадаркі СССР і Нямеччыны. 1 верасня 1939 ЗША мелі трохі больш за 500 танкаў. Гэтулькі ж мела і Вялікабрытанія. На пачатку вайны ў Злучаным Каралеўстве налічвалася толькі 488 бамбардзіроўшчыкаў (у немцаў — 1500). Пасля сутычак з Вермахтам у 1940 Вялікабрытанія, паводле Чэрчыля, мела 20 тысяч падрыхтаваных жаўнераў, 200 гармат і 50 танкаў.




**Капітан Марцін, якога не было**

Ідэя аперацыі «Мінсміт» была бліскучай. Аднак узнікла нечаканая цяжкасць: дзе знайсці цела чалавека з пашкоджаннямі, як пасля авіякатастрофы? Як толькі з'яўлялася «кандыдатура», сваякі памерлага не давалі згоды. Або папросту не выклікалі даверу. Нарэшце, было знойдзена цела чалавека, які памёр ад запалення лёгкіх пасля пераахаладжання на моцным марозе. Сваякам далі мінімум звестак: мэта высакародная, нябожчык будзе належна пахаваны, хоць і пад чужым імем. Яны пагадзіліся маўчаць з умовай, што сапраўднага імені ніхто не даведаецца. Для аперацыі выбралі іспанскі горад Уэльву, бо там актыўна дзейнічаў нямецкі агент, які меў сувязь з мясцовымі чыноўнікамі. А вятры, якія дзьмуць з мора ў красавіку, давалі гарантыю, што цела выкіне на бераг. З самалёта «капітана» вырашылі не кідаць: пашкоджанні ад удару маглі быць непраўдападобна моцнымі. Цела транспартавалі да берага падводнай лодкай.

**Дуайт Дэвід Эйзенхаўэр**

(1890—1969), нашчадак нямецкага імігранта, генерал арміі (1944), мастак-аматар. Ад лістапада 1942 да кастрычніка 1943 камандаваў сіламі саюзнікаў у Паўночнай Афрыцы, на Сіцыліі і Апенінскім паўвостраве. Кіраваў высадкай у Нармандыі. Ад 1947 быў прэзідэнтам Калумбійскага ўніверсітэта. Выдаў кнігу ўспамінаў «Крыжовы паход у Еўропу» (перакладзена на 22 мовы). У 1953—1961 прэзідэнт ЗША ад Рэспубліканскай партыі.

**Бернард Лоу Мантгомеры**

віконт Мантгомеры Аламейскі (1887—1976), сын англіканскага святара з Уэльса, фельдмаршал (1944). Ад жніўня 1942 камандаваў 8-й брытанскай арміяй у Паўночнай Афрыцы. Атрымаў перамогу пад Эль-Аламейнам, вызваляў Лівію, Сіцылію, Італію. Напісаў падручнік па тактыцы (1930) і «Мемуары» (1958).

**Фрыц Эрых фон Манштайн**

(фон Лявінскі; 1887—1973), патомны нямецкі вайсковец, нефармальны лідар нямецкага генералітэту. Гітлер стараўся трымаць Манштайна на адлегласці, а ў 1944-м адправіў у адстаўку. Адзін са стваральнікаў сучаснага Бундэсвера. Аўтар кніг «Згубленыя перамогі» і «З жыцця салдата». Першая з іх высока цэніцца спецыялістамі, хоць некаторыя лічаць, што маршал прыхарошыў сітуацыю ў час Курскай бітвы.




19—20 ліпеня ў Гарадку (Польшча) — Басовішча-2013. Выступаюць: Akute, Clover Club, Died Moroz Convention, Dzieciuki, Hope On, Ilo&Friends, Indios Bravos, Kim Nowak, Masala Soundsystem, Orkiestra Klezmierska Teatru Sejnenskiego, Perkalaba, Pokrak, Pomidor/off, Re1ikt, The Toobes, Vinsent, Kinior&Zabelov і іншыя.

## ФУТБОЛ

### «Дынама» — «Лакаматыў»




**18 ліпеня** пройдуць першыя матчы другога кваліфікацыйнага раўнду Лігі Еўропы. У Мінску на стадыёне «Трактар» (Ванеева, 3) згуляюць сталічнае «Дынама» і заграбскі «Лакаматыў». Пачатак а 20-й. Білеты — 20—30 тысяч рублёў.

У гэты самы дзень у Салігорску мясцовы «Шахцёр» прыме малдаўскі «Мілсамі». Пачатак таксама а 20-й.

Яшчэ адзін прадстаўнік нашай краіны — «Мінск» — згуляе першы матч у гасцях з ФК «Валета» з Мальты.

### Тур 18

**20-21 ліпеня** пройдуць матчы чарговага тура чэмпіяната краіны па футболе. У суботу гуляюць:

БАТЭ (Барысаў) — «Дняпро» (Магілёў);

«Нёман» (Гродна) — «Нафтан» (Наваполацк).

У нядзелю:

«Дынама» (Брэст) — «Мінск»;

«Белшына» (Бабруйск) — «Шахцёр» (Салігорск);

«Дынама» (Мінск) — «Тарпеда-БелАЗ» (Жодзіна);

«Славія» (Мазыр) — «Гомель».

## КАНЦЭРТЫ

### Дзень культуры народаў ВКЛ

**Вялікі фолк-канцэрт «Дзень культуры народаў ВКЛ»** адбудзецца 24 ліпеня ў рамках выставы «Партрэты уладароў і магнатаў Вялікага Княства Літоўскага» ва ўнутраным дворыку Нацыянальнага мастацкага музея (Леніна, 20). У пяцігадзінным канцэрце, які пачнецца ў 18:00, возьмуць удзел гурты з чатырох краін: беларускі «Палац» (пры падтрымцы кампаніі «Будзьма беларусамі!»), украінскі «ГЫЧ Аркестр», польскі «VOJOSI» (пры падтрымцы Польскага Інстытута ў Мінску) і літоўскі «Aiste Smilgeviciute & SKYLE»

### Naka piano ў TNT Rock Club

**Гэта акустычны праект** мінскай рок-групы Naka, створаныя яго дзёрзкай салісткай Настассяй Шпакоўскай і чароўнай клавішніцай Ірынай Клименка.

## ВЫСТАВЫ

### Выстава мотатэхнікі

**Да 28 ліпеня у Нацыянальным гістарычным музеі (Маркса, 12)** працуе выстава «Minsk: дарога даўжынёю ў 60 год», прысвечаная гісторыі развіцця мотатэхнікі ў Беларусі

## ТЭАТР

### 18 ліпеня

**Тэатр беларускай драматургіі** — «Бегчы з Эльсінора, альбо Гамлет навыварат»

### 22 ліпеня

**Купалаўскі** — «Паўлінка»




**Наш Грунвальд**

У праграме фэсту (20-21.07):
- конны і пешы рыцарскія турніры
- бугурты (масавыя бітвы рыцараў)
- турнір лучнікаў
- турнір алебардыстаў
- рэканструкцыя «Грунвальдскай бітвы»
- горад майстроў
- гандлёвыя рады
- агнявое шоу
- выступленні танцавальных і тэатральных калектываў
- рок- і фолк-канцэрты
- сярэднявечныя атракцыёны і забавы на любы густ для гасцей і гледачоў фестывалю

## КІНО

### Пачвары супраць робатаў

Ціхаакіянскі рубеж
Фантастыка, баявік
**Рэжысер:** Гільерма дэль Тора
**У ролях:** Чарлі Ханэм, Ідрыс Эльба, Чарлі Дэй, Берн Горман, Рынка Кікуці, Рон Перлман
ЗША, 113 хв.

Над чалавецтвам навісла сур'езная пагроза: з разлому ў акіяне выбіраюцца неймаверный велічыні пачвары, названыя Кайдзу, і пачынаюць нішчыць гарады. Краіны аб'ядналіся, каб знайсці ўправу на гэтае ліха, і спраектавалі гіганцкіх чалавекападобных робатаў («Егераў»), якіх пілатуюць па два чалавекі, уступаючы з імі ў нейронавую сувязь. Што такое гэты разлом, чаго хочуць монстры і ці змогуць іх адолець «Егеры»?

Стыль Гільерма дэль Тора склаўся у жанры хорару — ён асабліва пазнавальны у такіх фільмах, як «Хрыбетнік д'ябла», «Лабірынт фаўна», а таксама коміксавым «Хэлбоі». Тут жа мы маем амаль класічную фантастыку з прышэльцамі і кіраванымі робатамі. Гісторыя супрацьву расказаная з размахам: баі гіганцкіх пачвараў, рэйнджары, зруйнаваныя падчас баёў гарады, падводныя бітвы. Гэта не пакіне гледача абыякавым. Не абыдзецца і без асабістых драм, звязаных з незвычайным спосабам кіравання «Егерамі» — зліццём свядомасцяў двух рэйнджараў, якія павінны быць сумяшчальнымі, каб перамагчы марскую пачвару.

**Настасся Уласава**



# У інтэрнэце можна даведацца, дзе пахаваны чалавек

У адкрытай базе больш за **мільён беларусаў.**

Спецкамбінат КБА, які займаецца рытуальнымі паслугамі, пачаў вялікі праект. Супрацоўнікі ствараюць сайт Pomnimvas.by з інфармацыяй пра месцы пахавання беларусаў. На дадзены момант у адкрытую базу ўнесеныя імёны ўжо мільён чалавек. Гэта інфармацыя пра людзей, пахаваных у Мінску, Гродне, а таксама на вайсковых могілках краіны.

Для таго, каб даведацца месца пахавання, дастаткова пазначыць імя і прозвішча памерлага ці дату яго смерці. Можна паспрабаваць указаць частковую інфармацыю — напрыклад, месяц смерці ці дзявочае прозвішча. У выніку сістэма падкажа дакладнае месца пахавання блізкага чалавека.

Інфармацыйныя тэрміналы з такімі ж загружанымі дадзенымі стаяць і на мінскіх могілках.

З цягам часу ў базу будуць уносіцца звесткі з кніг уліку на могілках іншых гарадоў, а пасля і вёсак. Працэс можна і паскорыць, калі дадаць інфармацыю пра сваіх памерлых блізкіх самому на сайце. Тамсама можна напісаць пра яго некалькі словаў — якім чалавек быў, чым займаўся.

Для тых, хто хоча ўшанаваць імя сваяка, прапануецца стварыць ягоную персанальную старонку. Яе будуць бачыць усе карыстальнікі сайта ці інфакіёска. Падрабязная біяграфія, загружаныя здымкі — усё гэта будзе каштаваць блізкім 380 тысяч рублёў. Пакуль у такім «прывілеяваным» спісе некалькі дзясяткаў чалавек. Сярод іх, напрыклад, былы старшыня Мінгарвыканкама Міхаіл Паўлаў.

**ЯМ**

У калумбарыі пры мінскім крэматорыі знайшлі спакой тысячы беларусаў.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

# За апошнія два гады ў Беларусі былі забітыя 20 тысяч баброў



Папуляцыя жывёлы дасягнула **65 тысяч асобінаў.**

Згодна з падлікамі Белстата, летась у краіне жылі больш за 160 тысяч зайцоў і 127 тысяч вавёрак.

Сярод іншых жывёлаў, якія часта сустракаюцца ў прыродзе — дзікі (78 тысяч), казулі (73 тысячы) і бабры (65 тысяч). Налічылася 37 тысяч лісіц, 35 тысяч андатраў, 27 тысяч ласёў, 24 тысячы нарак, 11 тысяч аленяў.

Штогод палявання, то найбольш папулярнымі застаюцца зайцы (44 тысячы здабытых жывёлаў), дзікі (30 тысяч) і ліс іцы (17 тысяч).

Летась было забіта 6 тысяч баброў, гэта істотна менш, чым у 2011, калі здабылі ажно 14 тысяч баброў.

**ЯМ**

# Самае чыстае паветра ў краіне — у Хоцімскім раёне

На кожнага жыхара Наваполацка летась прыпала 636 кг **забруджвальных рэчываў.**

Белстат склаў рэйтынг раёнаў краіны па колькасці выкідаў забруджвальных рэчываў у паветра. Агулам летась было выкінута 433 тысяч тон. Пры гэтым яшчэ 2,7 мільёна тон было абясшкоджана.

Сярод самых брудных раёнаў перадусім тыя, дзе ёсць буйная прамысловасць. Наперадзе Полацкі раён, «дзякуючы» нафтаперапрацоўчаму заводу ў Наваполацку. У разліку на кожнага жыхара Наваполацка ў паветра летась былі выкінутыя 636 кілаграмаў забруджвальных рэчываў!

А вось найлепш дыхаецца ў Хоцімскім раёне. Летась тут было выкінута ўсяго 100 тон забруджвальных рэчываў.

**ЯМ**

| **Раёны з самым брудным паветрам** (тысяч тон забруджвальных рэчываў): | **Раёны з самым чыстым паветрам** (тысяч тон забруджвальных рэчываў): |
|---|---|
| 1) Полацкі (71,3) | 1) Хоцімскі (0,1) |
| 2) Мазырскі (38,3) | 2) Ганцавіцкі (0,2) |
| 3) Мінскі (33,8) | 3) Шаркаўшчынскі (0,2) |
| 4) Гродзенскі (16,8) | 4) Ельскі (0,2) |
| 5) Гомельскі (14,4) | 5) Лельчыцкі (0,2) |
| 6) Жлобінскі (13,1) | 6) Нараўлянскі (0,2) |
| 7) Чашніцкі (10,0) | 7) Дзятлаўскі (0,3) |
| 8) Нясвіжскі (8,2) | 8) Кругляўскі (0,3) |
| 9) Ваўкавыскі (7,6) | 9) Чэрыкаўскі (0,3) |

## Сцісла

### Працуе адзіная служба выратавання — 112

1 ліпеня выклікаць экстраную службу дапамогі са стацыянарных і мабільных тэлефонаў можна праз нумар 112. Спецыялісты дыспетчарскага цэнтра Міністэрства па надзвычайных сітуацыях накіруюць да вас хуткую дапамогу ці ратавальнікаў. Такі нумар існуе і ў краінах Еўрасаюза. Па змоўчанні ён выкарыстоўваецца ва ўсіх мабільніках.

### На МКАД запрацавалі камеры

Камеры фіксацыі хуткасці пакуль усталяваныя на кальцавой дарозе ў пяці пунктах: нулявы кіламетр (пр. Незалежнасці), 2-і км (вул. Скарыны), 10-ы км (вул. Машынабудаўнікоў), 24-ы км (пр. Дзяржынскага) і 39-ы км (вул. Ціміразева). Неўзабаве з'явяцца і іншыя. А ў некаторых месцах усталююць муляжы.

### Праверце, ці не аштрафавалі вас

На сайце mvd.gov.by, у раздзеле «Паслугі», з'явіўся новы online-сэрвіс, які дазваляе ўладальніку аўтамабіля праверыць, ці не зламілі яго за перавышэнне хуткасці на камеры фотафіксацыі. Трэба ўвесці сваё імя і прозвішча, а таксама нумар тэхпашпарта. Інфармацыя абнаўляецца штодня.

### Зубрамі Волатамі будуць канадцы

Падчас чэмпіянату свету па хакеі-2014 забаўляць гледачоў будуць чатыры лялькі ў выглядзе зубра. Гэта талісман турніра, яго клічуць Волат. За лялькі давялося заплаціць каля $16 тысяч. У кожнай з іх будуць знаходзіцца канадцы. Беларусаў з належным досведам такой працы не знайшлося.

### Рыбалка можа стаць платнай

Па словах старшыні Беларускага таварыства паляўнічых і рыбаловаў Юрыя Шумскага, неабходна разглядаць пытанне аб увядзенні невялікай платы.

### Фальшывыя банкаматы

У маскоўскіх аэрапортах Унукава і Шарамецьева і двух вялікіх гандлёвых цэнтрах расійскай сталіцы выяўлены фальшывыя банкаматы, пастаўленыя ад імя няіснага «Внешінвестбанка». Цікава, што дызайн і кантэнт сайта яны здзёрлі ў беларускага btabank.by.

Банкаматы-махляры выглядалі цалкам праўдападобна. Аднак пасля ўводу PIN-кода на экране з'яўлялася паведамленне пра адмову ў абслугоўванні. Затое прылада захоўвала дампы картак, а зладзеі атрымлівалі доступ да картkавых рахункаў і спісвалі з іх грошы.

**Сяргей Гезгала; ЯМ**



## Прыватныя абвесткі

**ВІНШУЕМ**

**Віншуем Сяргея Гудзіліна і Марыю Колесаву-Гудзіліну і дачку Сафію** з нараджэннем другой дачкі (і сястрычкі)! Сябры

**Віншуем Надзею Клімовіч і Сержука Гумінскага** з нараджэннем сына Платона. Сябры

**СПАЧУВАННІ**

**Выказваем спачуванні сям'і Міхася Янчука** з прычыны смерці бацькі, журналіста Міхаіла Янчука.

**АРЭНДА**

**Беларускамоўная пара здыме 1-пакаёвую кватэру** ў Мінску на доўгі тэрмін. Тэл: (029)595-84-20 (Арцём).

**У ДОБРЫЯ РУКІ**

**Котка (1 месяц) будзе радая знайсці гаспадароў** у асобе добрых і клапатлівых людзей. Актыўная, самастойная ды цікаўная, падыдзе і для прыватнага сектара, і для кватэры. Тэл.: (029)390-63-11 (Аляксей).



Прыватныя абвесткі ў «НН» (не больш за 15 словаў) можна падаць бясплатна. Дасылайце поштай (а/с 537, 220050, Мінск) ці праз e-mail (nn@nn.by) або размяшчайце на форуме сайта www.nn.by. Дык скарыстайцеся!



BRESTCITY.COM

**У Брэсце падчас адкрыцця гандлёвага дома «Мільённы» была запланаваная рэкламная раздача цукерак. З адкрытай пляцоўкі іх было выкінута 800 кілаграмаў. Сабралася 5 тысяч чалавек, якія лавілі цукеркі ў парасоны.**



**Boeing 777 зрабіў няўдалую пасадку ў аэрапорце Сан-Францыска. З 307 чалавек на борце загінулі двое. Каля 200 былі шпіталізаваныя. Ужо пасля надзвычайнага здарэння высветлілася, што кіраваў лайнерам пілот-пачатковец. Сам лётчык сцвярджае, што падчас пасадкі ён быў асляплены лазерам з зямлі.**



**У СВК «Агранёманскі» Стаўпецкага раёна дбаюць пра ідэалагічнае выхаванне. Не толькі моладзі, але і маладняку. На здымку — цялятнік колераў дзяржаўнага сцяга на калгаснай ферме вёскі Залужжа.**



**«Міс Вымя — 2013». Карова па мянушцы Груша з вучэбнай гаспадаркі Беларускай дзяржаўнай сельгасакадэміі ў Горках перамагла ў конкурсе «Белферма», які праходзіў у рамках міжнароднай выставы «Белагра-2013».**

## Анекдоты і жарты

* * *

Гэта нічога, што метро затопленае, затое праспект паліваюць згодна з графікам.

* * *

Язык у ката — гэта не толькі язык, але і лыжка, кубак, зубная шчотка, шчотка для футра, мыла, вяхотка і туалетная папера.

* * *

Мае суседзі слухаюць толькі добрую музыку. Хочуць яны таго, ці не.

* * *

Сантэхніка можа быць імпартнай, сантэхнік — заўсёды айчынны.

* * *

Следчы камітэт Расіі разглядае асноўныя версіі аварыі «Пратона-М»:
— геі;
— бязбожнікі;
— прыёмныя бацькі з ЗША;
— Навальны.

* * *

Канібалы-вучоныя вывелі людзей без костак.

* * *

Тры неабходныя ўмовы для моцнага сну: чыстае сумленне, мяккая падушка і адсутнасць інтэрнэту.

* * *

Сёння ўвечары сіноптыкі абяцаюць пацямненне.

* * *

Калі казаць усім гасцям «я проста нядаўна пераехаў», можна не прыбіраць у кватэры гадамі.

* * *

— Як ты не стамляешся ляжаць цэлымі суткамі?
— Я пераварочваюся.

## «НН» сто гадоў з вамі

**Небывалая залева** здарылася гэтымі днямі ў Дзвінску. Дождж быў такі густы і буйны, што затапіла вадой вуліцы. Гэткай залівы ніхто не памятае. У сярэдзіне горада на вуліцах можна было ездзіць на чоўнах.

**«НН». №29. 1913.**

**Новы профіль урада.** Першай пастановай в.а. прэм'ера, гомельскага прамыслоўца Сяргея Сідорскага, стала вызначэнне канчатковых умоваў прыватызацыі «Белтрансгаза». «Газпрому», каб паўдзельнічаць у стварэнні сумеснага прадпрыемства, давядзецца цалкам забяспечыць патрэбы Беларусі ў газе (2003—2005). Пры гэтым газ мусіць пастаўляцца па ўнутрырасейскай цане. Магчыма, якраз гэтая ідэя вывела Сідорскага ў в.а. прэм'ера.

**«НН». №26. 2003.**

**Наша Ніва**
незалежная газета
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914),
Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч,
У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі — Наста Бакшанская
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
намеснікі галоўнага рэдактара — Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32,
8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**


8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 8010. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 23.00 16.07.2013.
Замова №2923.
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.
Цана дамоўная.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 1819-1614
9 771819 161008 13026